**ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ**

**ОРГАН КААПЭРАЦЫЙНА-ПРАМЫСЛОВАГА САЮЗУ ПАЛЯЎНІЧЫХ БЕЛКАХОТСАЮЗ.**

ЗЬМЕСТ






**№ 3**

**САКАВІК**

**1932 г.**

# Сустрэць сваячасова веснавую пуціну

XVII Партканфэрэнцыя зьвярнула вялікую ўвагу на разьвіцьцё рыбалоўства і рыбаводзтва. Перад рыбнай гаспадаркай зараз стаіць задача, дапамагчы рабочаму снабжэньню дачай высокагатунковага прадукту харчаваньня.

Як-жа ў нас, у Беларусі, абстаіць справа ў гэтым напрамку. Аб гэтым пакажуць нішэйзьмешчаныя лічбы, якія мы атрымалі ад Белрыбаксаюзу. У 1931 годзе было дадзена заданьне Белрыбаксаюзу вылавіць у вадаёмах БССР 40 тысяч цэнтнераў рыбы, што служыла-б вялікім падспор'ем для грамадзкага харчаваньня. Белрыбаксаюз ня справіўся з гэтай задачай і заданьне засталося недавыкананым. За ўвесь 1931 год было вылаўлена толькі 32.683 цэнтнераў. Гэта выкананьне разьмяркоўвалася па вучастках такім парадкам. Полацкі вучастак даў 8461,51 *цнт*, Віцебскі—5339,14, Аршанскі—3505,92, Магілеўскі—1597,94, Бабруйскі—6701,32, Барысаўскі—866,06 і Менскі—497,47 *цнт*.

Што-ж служыла тормазам для поўнага выкананьня плянаў Белрыбаксаюзу? Зусім нельга сказаць, што ў нашых вадаёмах так мала рыбы, што нельга было выканаць пляну. Гэтага, як раз, не гаворыць і Белрыбаксаюз. Уся справа, як відаць, заключаецца ў арганізацыі промыслу лову. Асабліва пацьвердзіцца гэта думка, калі мы ўлічым тыя недахопы ў арганізацыі рыбнога промыслу, якія былі на працягу ўсяго 1931 году, калі мы ўлічым тое, што вельмі вяла, несваячасова ажыцьцяўляліся шэсьць умоў т. Сталіна. У некаторых рыбавучастках, а таксама і тых арганізацыях, якія павінны былі сваячасова паклапаціцца аб тым, каб рыбаксаюз свой прадукт здаваў ім для забесьпячэньня рабочых, была абязьлічка. Некаторыя, так званыя спажывецкія арганізацыі, якія павінны былі атрымліваць рыбу ад рыбаксаюзу, не заключылі сваячасова дагаворы з рыбаксаюзамі на мясцох, з арцелямі рыбакоў. **Такім чынам арцелі збывалі рыбу прыватніку, за чым, без належных дагавораў, было вельмі цяжка ўсачыць.** Гэта ж самая прычына паслужыла і таму, што рыбакі не атрымлівалі ад спажывецкіх арганізацый прамтавараў. Напрыклад, Магілеўскі каапхарч, Бабруйскі ЗРК лесакамбінату зусім ня мелі такіх дагавораў з рыбацкімі арганізацыямі, а потым скардзіліся, што ім не даюць рыбапрадуктаў. Не заключылі-ж дагавораў яны толькі таму, што (са слоў самых адказных працаўнікоў гэтых арганізацый) ня было часу іх заключыць.

Другой прычынай невыкананьня заданьня па адлову рыбы ў 1931 г. было тое, што і заключыўшыя дагаворы з рыбацкімі арцелямі арганізацыі ня выконвалі гэтых дагавораў і вельмі мала, а то і зусім, не ўдзялялі ўвагі на забесьпячэньне рыбакоў прамтаварамі іншымі прадуктамі прамысловасьці і сельскай гаспадаркі. І толькі зараз рыбаксаюз, паставіўшы гэтае пытаньне перад належнымі дзяржаўнымі арганізацыямі, дабіўся таго, што арганізацыі спажывецкага характару, якія атрымліваюць прадукты рыбнага промыслу, і павінны забясьпечваць усім неабходным рыбацкія арцелі. Такім чынам, скажам, калі ЦРК будзе забіраць ад якой-небудзь арцелі ці іншай рыбацкай арганізацыі рыбу, ён павінен і забясьпечыць рыбакоў усім неабходным.

Трэцяй прычынай недавыкананьня плянаў было тое, што зарплата рыбакоў была вельмі нізкая. У 1931 годзе па вестках рыбаксаюзу, на кожнага рыбака ў сярэднім прышлося па 18 руб. у месяц. Гэта атрымалася ад таго, што ў мінулым годзе былі пастаўлены рыбаксаюзам і зацьверджаны належнымі органамі вельмі нізкія расцэнкі на ўлоў рыбы. Праўда, тут трэба прыняць пад увагу тое, што наш беларускі рыбак не зьяўляецца рыбаком прамыслоўцам і мае іншыя, больш значныя даходы з сельскай гаспадаркі, бо ён не аддае ўвесь свой час на рыбную справу. Тым ня менш урадавыя органы палічылі неабходным падвысіць зарплату рыбакоў у 1932 годзе па некаторых гатунках рыбы прыблізна на 35 і больш процантаў, што дасьць стымул да падвышэньня ўлову рыбы. Гэтая пастанова—аб зарплаце—ужо, здаецца, зацьверджана вышэйшымі арганізацыямі, рэгулюючымі зарплату.

Чацьвертая і самая апошняя прычына была ў тым, што адлову рыбы ня спрыяла само надвор'е, што, у некаторай, хаця і вельмі малой меры, таксама мела ўплыў. Былі яшчэ іншыя недахопы, недахопы дробнага характару, якія, пры ўменьні добра працаваць, маглі-б быць хутка адхілены, але і самі рыбацкія арцелі і іншыя арганізацыі працавалі вельмі непаваротліва, па мядзьвежаму. Да гэтых прычын трэба аднесьці такія, напрыклад, як няспраўнасьць прылад лову і г. д.



На 1932 год урадавымі органамі для Беларусі вызначана даць 46.000 *цнт* рыбы.

На першы квартал гэтага году было вызначана для Беларусі вылавіць 16.000 *цнт*.

Між тым, як гэта відаць з ніжэйпрыведзеных лічбаў, заданьне першага кварталу выканана ў нязначнай меры. Полацкаму рыбавучастку было дадзена заданьне 3840,19 *цнт* вылаўлена 773, Віцебскаму—2880, вылаўлена 810,76, Аршанскаму—2134, вылаўлена 304,31, Магілеўскаму—864, вылаўлена 34,35, Бабруйскаму—1024, вылаўлена 112,65, Гомельскаму—1664, вылаўлена 214,14, Мазырскаму—2736, вылаўлена 579,3 Барысаўскаму—640, вылаўлена 75,94 і Менскаму—218, вылаўлена 15,20. Усяго здабыта рыбы 2919,97 *цнт*, што складае 7,2 проц. гадавога пляну і толькі 18,2 проц. квартальнага. Белрыбаксаюз адносіць гэты недахоп за кошт дрэннага надвор'я. Нам здаецца, што справа ня толькі ў надвор'і, а і ў пастаноўцы работы на мясцох, у арцелях, што мусіць ня будуць адмаўляць і адказныя працаўнікі рыбаксаюзу.

Такім чынам мы бачым, што па прыкладу мінулага году, недавыкананьне пляну па адлову рыбы пагражае і ў гэтым годзе. Нам-жа здаецца, што пры вядомых умовах, пры добрай пастаноўцы працы, пры выгнаньні з апарату рыбаксаюзу абязьлічкі, валакіты, бюракратызму, пры разгортваньні сацыялістычных мэтадаў працы ў рыбным промысьле, пры сапраўдным штурмаваньні рыбакамі нашых вадаёмаў (азёр і рэчак), а ня то што, закінуўшы вуду і чакаючы з мора пагоды, чым вельмі любяць займацца рыбакі, плян 1932 году ў разьмеры 46.000 цэнтнераў рыбы выканаць можна.

Але-ж для гэтага трэба працаваць і адхіліць усе тыя „рагулькі", якія былі ў мінулым годзе і практыкуюцца яшчэ зараз. А тым больш гэтага можна дасягнуць таму, што ёсьць усё неабходнае для гэтага, як гэта гавораць і самі працаўнікі Белрыбаксаюзу.

Як мы ўжо гаварылі заработная плата рыбакам падвышана. Прыладамі лову рыбакарцелі забясьпечаны. Праўда, некалькі не хапае вяровак для невадаў, але і гэты недахоп зжываецца пасьпяхова. Людзей таксама для выкананьня пляну хапае. Зараз Рыбаксаюз аб'ядноўвае 2 000 рыбакоў, з якіх 75 проц. калгасьнікаў і толькі 25 проц. аднаасобнікаў. Спэцвопраткай рабочыя ўжо амаль забясьпечаны і будуць забясьпечаны канчаткова, таксама як будуць забясьпечаны і ўсімі іншымі неабходнымі прыладамі лову.

І так, свой прамфінплян Белрыбаксаюз павінен выканаць. Рыбацкія масы павінны паказаць соцыялістычныя тэмпы працы і даць 46.000 *цнт* рыбы ў 1932 годзе. Асабліва вялікіх посьпехаў можна дасягнуць, скарыстаўшы веснавую пуціну.

# Пасьпяхова завяршыць падрыхтоўку да сяўбы

У гэтую веснавую пасеўную кампанію перад намі стаяць вялізарнейшай важнасьці гаспадарча-палітычныя задачы. Па БССР у гэтым годзе мы павінны засеяць яравога кліну ня менш 2 мільёнаў 850 тысяч *га*. Паводле пляну трэба засеяць 700 тысяч *га* бульбы, 380 тыс. *га* кармовых траў, 55 т. *га* караньплодаў і 370 тыс. *га* тэхнічных культур (лён, каноплі). Трэба дабіцца павышэньня ўраджайнасьці збожжавых культур ня менш як на 12 проц., тэхнічных—на 15 проц. і бульбы—на 20 проц.

Таму падрыхтоўцы да веснавой сяўбы павінна быць зьвернута выключная ўвага партыйных, савецкіх, камсамольскіх арганізацый і ўсёй калгаснай сыстэмы. Кожная з гэтых арганізацый павінна памятаць, што посьпех правядзеньня сяўбы залежыць мевавіта ад папярэдня-падрыхтоўчай работы, ад арганізаванасьці кожнага саўгасу і калгасу, ад рэалізацыі 6-ці ўмоў тав. Сталіна.

Рашаючай умовай пасьпяховага выкананьня пляну веснавых работ зьяўляецца правільная арганізацыя працы. Пляны сяўбы павінны быць зараз-жа даведзены да кожнай брыгады, да кожнага ў паасобку калгасьніка з тым, каб да пачатку палявых работ кожная брыгада ведала вучастак, на якім яна будзе працаваць, які інвэнтар і рабочая жывёла будзе да яе прымацавана. Працоўная сіла калгасу павінна быць расстаноўлена так, каб ніводная хвіліна ў час сяўбы ня была затрачана дарма, каб **правесьці ўсю веснавую сяўбу ў 10—15 дзён.**

Калгасная брыгада павінна заняць цэнтральнае месца ў падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове ад 4-га лютага г.г. указаў, што **„важнейшым зьвяном у арганізацыі працы ў калгасах павінна стаць брыгада. У адпаведнасьці з вопытам лепшых сельска-гаспадарчых арцеляй ЦК лічыць мэтазгодным арганізацыю ў калгасах брыгад з сталым складам калгасьнікаў, з тым, як правіла такія брыгады ўтваралі асноўныя сельска-гаспадарчыя работы на працягу ўсяго году, на пэўных вучастках. Гэтым брыгадам калгас вылучае на час іх работы неабходныя машыны, інвэнтар і рабочую жывёлу, за станові шча якіх цалкам адказвае брыгада".**

Барацьба за якасьць калгаснай вытворчасьці, барацьба за высокі ўраджай, за высокую прадукцыйнасьць жывёлагадоўлі—зьяўляецца галоўным лёзунгам заключнага году першай пяцігодкі ў сельскай гаспадарцы **„Прадукцыйнасьць працы,**—вучыў нас Уладзімір Ільліч Ленін,—**гэта ў выніку самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадзкага ладу".** Дамагчыся рашаючых якасных паказчыкаў у калгаснай вытворчасьці і ўзьняцьця прадукцыйнасьці і эфэктыўнасьці працы ў калгасах магчыма толькі пры ўмове няўхільнага ажыцьцяўленьня пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б „Аб чарговых мерапрыемствах па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў"[1]), пры ўмове ажыцьцяўленьня ў кожным калгасе і саўгасе 6-ці ўмоў правадыра нашай партыі тав. Сталіна.

XVII канфэрэнцыя УсеКП(б) высунула цэнтральную задачу ў галіне сельска-гаспадарчай вытворчасьці на гэты год і бліжэйшае пяцігодзьдзе—барацьбу за ўраджай. Надыходзячую веснавую сяўбу мы павінны правесьці пад знакам барацьбы за высокі ўраджай калгасных палёў, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў. Правільны севазварот, высокая якасьць апрацоўкі глебы, пасеў добраякасным насеньнем, максымальнае скарачэньне тэрмінаў сяўбы—галоўнейшая ў барацьбе за высокі ураджай, адна з рашаючых умоў умацаваньня калгасаў.

[1]) Гл. „П. Б." № 2, 1932 г.

**„Тэхніка ў пэрыяд рэканструкцыі рашае ўсё“** (Сталін). Гэтыя словы правадыра нашай партыі азначаюць у адносінах сельскай гаспадаркі ня толькі тое, каб навучыцца аўладаць сельска-гаспадарчай машынай, але і аўладаць агратэхнікай. Трэба ўмець прымяняць і выкарыстоўваць у сельскай гаспадарцы ўсе дасягненьні сучаснай агранаміі.

Спэцыялісты Ўсебеларускага агратэхнічнага зьезду, які адбыўся ў першай палове сакавіка гэтага году, узялі на сябе сацыялістычныя самаабавязацельствы—павысіць ураджайнасьць: па ільнавалакну ў сярэднім па БССР ня менш як 2,6 *цнт* з *га*, па канаплях ня менш 4,1 *цнт* з *га*, па гародных культурах—107,4 *цнт*, па збожжавых—9 *цнт*, па бульбе—112 *цнт*, па канюшыне—35 *цнт* сена, па віцы—32,1 *цнт* сена 3 *га*. Спэцыялісты сельскай гаспадаркі павінны мабілізаваць усю сваю энэргію на выкананьне і перавыкананьне ўзятых на сябе самаабавязацельстваў, на забесьпячэньне агратэхнічнымі мерапрыемствамі саўгасаў і калгасаў для атрыманьня найвышэйшых ураджаяў.

Разьвіцьцё сацыялістычнай жывёлагадоўлі зьяўляецца галоўнейшай задачай на бліжэйшы час у сельскай гаспададаркі. XVII канфэрэнцыя ЎсеКП(б) паставіла задачу для 2-й пяцігодкі ў галіне разьвіцьця жывёлагадоўлі **„дабіцца такога павялічэньня стада і роста таварнай прадукцыі, якое адпавядала б вырашэньню ў асноўным жывёлагадоўчай праблемы для СССР, як гэтага партыя дабілася ў першую пяцігодку ў адносіне да збожжавай праблемы“** (з рэзалюцыі канфэрэнцыі ЎсеКП(б). БССР зьяўляецца адным з галоўнейшых жывёлагадоўчых раёнаў Савецкага саюза. Шляхам далейшай распрацоўкі агразоатэхнічных мерапрыемстваў і ўкараненьня іх у практыку сацыялістычнай жывёлагадоўлі, трэба забясьпечыць павышэньне прадукцыйнасьці жывёлагадоўлі, трэба па-бальшавіцку змагацца за давядзеньне ўдойнасьці малочнай жывёлы ў гэтым годзе па саўгасах ня менш 1.600 літраў і па калгасных фэрмах ня менш 1.300 літраў малака. У сьвінагадоўчых гаспадарках змагацца за атрыманьне ад аднэй сьвінаматкі па саўгасах ня менш 1,8 і па калгасных фэрмах—ня менш 1,5 апаросу ў год. Трэба дабіцца таго, каб на працягу 1932 году пагалоўе маладняку рагатай жывёлы было давядзена ня менш як 469.582 шт.

Трэба рашуча змагацца супроць прымусовага абагульваньня кароў і дробнай жывёлы ў асобных калгасьнікаў. „Задача партыі састаіць у тым, каб у кожнага калгасьніка была свая карова, дробная жывёла, птушка“ (з пастановы ЦК УсеКП(б) ад 26 лютага 1931 г.).

Цэнтральны Камітэт УсеКП(б) сваёй пастановай ад 4-га лютага паставіў задачу замацаваньня за калгаснай брыгадай пэўнага вытворчага вучастку на ўвесь год, з павышэньнем ацэнкі працадня брыгады ў залежнасьці ад атрыманага з гэтага вучастку ўраджаю. Таму калгасная брыгада павінна адыграць выключную ролю ў барацьбе за ўраджай, за ўнядрэньне агратэхнікі. На аснове шырока разгорнутага сацспаборніцтва і ўдарніцтва, брыгады павінны няўстанна змагацца за высокі ўраджай на замацаваных за імі вытворчых вучастках. Кожная брыгада, кожны ў паасобку калгасьнік павінны памятаць, што ў залежнасьці ад ураджаю будзе павышацца ацэнка працадня.

Кожны год мы маем вялікія страты з-за дрэннай уборкі. Таму ў рабочых плянах веснавой сяўбы саўгасы, калгасы і машына-трактарныя станцыі павінны ня толькі прадугледзець усе мерапрыемствы сваячасовай і добраякаснай сяўбы, але і ўборкі ўраджаю. Кожны саўгас, калгас і МТС павінны зараз ужо падрыхтавацца да бесьперапыннага паля-вога пэрыяду, пачынаючы ад веснавой сяўбы і канчаючы абмалотам з тым, каб не дапусьціць страт ураджаю.

**Збор насеньня—цэнтральная задача на даным этапе падрыхтоўкі да веснавой сяўбы.** Сваячасовая падрыхтоўка насеньня, добрая якасьць яго—першая ўмова пасьпяховай барацьбы за высокі ўраджай калгасных палёў. Партыйныя арганізацыі павінны мабілізаваць шырокія масы калгасьнікаў і беднякоў-сераднякоў аднаасобнікаў на хутчэйшы збор насенных фондаў. Трэба памятаць, што **барацьба за насеньне—барацьба за высокі ўраджай.**

Наш Савецкі саюз стаў краінай самага буйнага і перадавога земляробства ў сьвеце. Мы можам і павінны стаць краінай самых высокіх ураджаяў. Савецкія і калектыўныя гаспадаркі павінны стаць такімі-ж ўзорнымі па вытворчасьці хлеба, мяса і сельска-гаспадарчай сыравіны, як і нашы фабрыкі жалеза, нафты, вугалю, сельска-гаспадарчых машын.

Вакол падрыхтоўкі да веснавой сяўбы адбываецца жорсткая клясавая барацьба. Кулак, скарыстоўваючы дробна-уласьніцкія настроі адсталай часткі калгасьнікаў, заядла выступае супроць выкананьня загатовак, імкнецца сарваць стварэньне насенных фондаў і гэтым самым пашкодзіць пасьпяховай падрыхтоўкі да сяўбы, пашкодзіць арганізацыйна гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў. Задача партыйных арганізацый і кожнага ў асобку камуніста-калгасаў і калгасьнікаў—павысіць клясавую пільнасьць. Мабілізаваць усю калгасную масу на барацьбу з кулаком і яго агентамі—правымі і „левымі“ апартуністамі.

Кожная ячэйка паляўнічых, кожны ў асобку член нашага таварыства павінны няўстанна змагацца за пасьпяховае ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі ў выкананьні плянаў веснавых работ 4-га заключнага году першай пяцігодкі, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў.

**С—ка.**

---

**Скончыць усю веснавую сяўбу максымум у 10—15 дзён—баявая задача „партыйных і камсамольскіх арганізацый і ўсёй савецкай грамадзкасьці**

# АБ ПРЫМУСОВЫМ АБАГУЛЕНЬНІ ЖЫВЁЛЫ

*(Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 26 сакавіка 1932 г.)*

У радзе раёнаў наглядаецца практыка абагуленьня кароў і дробнай жывёлы ў паасобных калгасьнікаў фактычна прымусовым спосабам, што самым грубым чынам парушае неаднакратныя ўказаньні Цэнтральнага Камітэту партыі і ўстаў сельска-гаспадарчае арцелі.

Цэнтральны Камітэт УсеКП(б) з усёй рашучасьцю падкрэсьлівае, што толькі ворагі калгасаў могуць дапушчаць прымусовае абагуленьне кароў і дробнай жывёлы ў паасобных калгасьнікаў.

Цэнтральны Камітэт растлумачвае, што практыка прымусовага адбору ў калгасьнікаў каровы і дробнай жывёлы ня мае нічога агульнага з палітыкай партыі. Задача партыі складаецца ў тым, каб у кожнага калгасьніка была свая карова, дробная жывёла, птушка. Далейшае пашырэньне і разьвіцьцё калгасных фэрм павінна ісьці толькі шляхам вырошчваньня фэрмамі маладняка альбо пакупкі ім і жывёлы.

Цэнтральны Камітэт КП(б) прапануе ўсім партыйным, савецкім і калгасным арганізацыям:

1. Спыніць усякія спробы прымусовага абагульваньня кароў і дробнай жывёлы ў калгасьнікаў, а вінаватых у парушэньні дырэктывы ЦК выключаць з партыі.

2. Арганізаваць дапамогу і садзейнічаньне калгасьвікам, якія ня маюць каровы альбо дробнай жывёлы, у куплі і вырашчваньні маладняка для асабовых патрэб.

**ЦК УсеКП(б).**

## Пастанову ЦК ад 26 сакавіка—у калгасныя масы

*(З перадавой „Праўды“ ад 28-III—32 г.)*

Цэнтральны Камітэт ня раз папярэджваў партыйныя арганізацыі наконт абсалютнай недапушчальнасьці парушэньняў у калгасным будаўніцтве, у прыватнасьці, наконт недапушчальных парушэньняў статуту сельска-гаспадарчай арцелі. І ўсё-ж знайшліся некаторыя арганізацыі і некаторыя работнікі, якія прайшлі міма гэтага папярэджаньня і падыйшлі да задачы калгаснага будаўніцтва ня так, як будаўнікі, а як адміністратары.

Партыя, вырашыўшы ў асноўным збожжавую праблему, паставіла разьвіцьцё жывёлагадоўлі, як цэнтральную на даным этапе задачу. І вось знайшліся людзі, якія перашылі, што з гэтай справай можна справіцца проста, „раз у раз“: варта, моў, толькі поўнасьцю аграмадзіць кароў і дробную жывёлу, якая ёсьць у калгасьнікаў. Пры гэтым асаблівай увагі заслугоўвае той факт, што калі супроць гэтых спроб у тых раёнах, дзе яны ўжываліся і высоўваліся пярэчаньні, то звычайна гэтыя пярэчаньні зводзіліся да ўказаньня на непадрыхтаванасьць матар'яльна-тэхнічнай базы для неадкладнага аграмаджаньня жывёлы і толькі. Няма, моў, скотных двароў, няма кэрмоў, а таму давайце пакуль з аграмаджаньнем пачакаем. Меркаваньне гэта важнае і само па сабе правільнае. Але яно мае адзін істотнейшы недахоп. Дапусьцім, што даная арцель мае і памяшканьні для жывёлы і неабходную колькасьць кармоў. Ці вынікае адсюль, што можна прымусова аграмадзіць жывёлу паасобных калгасьнікаў. Ці не зразумела, што людзі, якія думаюць вырашыць жывёлагадоўчую праблему шляхам прымусовага аграмаджаньня жывёлы, якая ёсьць у калгасьнікаў, прытрымліваюцца тэй „палітыкі“, якую тав. Сталін у свой час назваў „палітыкай“ унцера Прышыбаева. Паміма таго, што за спробамі пераскочыць праз арцель да камуны хаваецца апартуністычнае жаданьне адчапіцца ад цяжкай задачы сацыялістычнага перавыхаваньня калгасьнікаў, абыйсьці яе і адміністрацыйным шляхам вырашыць тыя задачы сацыялістычнай перабудовы вёскі—гэта справа мае яшчэ і другі бок,—бок эканамічны.

Што азначала-б ліквідацыя індывідуальнай часткі гаспадаркі калгасьнікаў сёньня? Над гэтым, відаць, не задумваюцца „заўзятыя“ адміністратары. Тут гэта значыла-б, што калгасы сёньня павінны былі-б быць замест арганізацыі вытворчасьці вырашаць задачу цэнтралізаванага снабжэньня калгасьнікаў, вырашаць задачу здавальненьня патрэб калгасьнікаў. Прышлося б перавесьці калгасьнікаў на грашовую заработную плату, для чаго патрэбна было-б адарваць мільярды рублёў зваротных сродкаў з іншых галін народнай гаспадаркі, бо калгасы не накапілі яшчэ выстарчальных уласных грашовых сродкаў, выстарчальных натуральных запасаў. Зрыў усяго народна-гаспадарчага пляну—вось што было-б вынікам такой „палітыкі“. ЦК ня раз і ў сваёй пастанове ад 4 лютага гэтага году асабліва папярэджваў супроць спроб перавесьці аплату працы калгасьнікаў на грашовую зарплату. Але якая справа да гэтых перасьцярог „левакам“, якім „усё ні па чым“. Ім і няўздагад, што ў парыве адміністрацыйнага захапленьня яны скачуць пад дудку клясавага ворага, што яны ў радзе выпадкаў становяцца ахвярай адкрытай кулацкай правакацыі.

Задача партыі заключаецца ў далейшым разгортваньні і ўмацаваньні арцельнай формы сельскай гаспадаркі, яна, у прыватнасьці, заключаецца ў тым, каб у кожнага калгасьніка была свая карова, дробная жывёла, птушка, каб „арганізаваць дапамогу і садзейнасьць калгасьнікам, якія ня маюць каровы або дробнай жывёлы, у куплі і гадоўлі маладняка для асабістых патрэб“.

Задачу пашырэньня стада і гадоўлі маладняка ў калгасах сёньня нельга вырашыць без актыўнага ўдзелу ў гэтай справе кожнага калгасьніка. Калгасная фэрма або інкубатарная станцыя, прадаючы калгасьнікам частку прыплоду (цялят, парасят, куранят), дапамагаючы ім абзавесьціся сваёй уласнай жывёлай, забясьпечвае гэтым самым вялізарны размах у справе гадаваньня маладняка.

Задачай усіх партыйных арганізацый зараз зьяўляецца, па-першае, шырокая папулярызацыя пастановы ЦК ад 26 сакавіка сярод калгасьнікаў і аднаасобнікаў і, па-другое, настойлівае правядзеньне яе ў жыцьцё.

Неабходна спыніць усякія спробы прымусовага аграмаджаньня кароў і дробнай жывёлы ў калгасьнікаў, а вінаватых у парушэньні дырэктывы ЦК выключаць з партыі“.

Трэба рашуча пакончыць з „лявацкімі“ тэорыямі і „лявацкай“ практыкай пераскакваньня праз арцельную форму калгасаў.

# Выкананьнем прамфінпляну—паскорым таваразварот

Перад сыстэмай паляўнічай каапэрацыі Беларусі стаяць цяжкасьці ў сэнсе звароту сродкаў, што, у сваю чаргу, вельмі адбіваецца на таваразвароце, на забесьпячэньні пайнікаў боепрыладамі і іншымі таварамі. З раёнаў паступае шэраг лістоў, што адчуваецца недахоп тавараў. Разам з гэтым ад раённых аддзяленьняў дзяржбанку і паштовых кантор атрымліваюцца тэлеграмы, што раённыя т-вы паляўнічых не аплачваюць рахункаў. Прыёмшчыкі-ж нашых нарыхтовак пушніны прад'яўляюць да паляўнічай каапэрацыі аб выплаце пені і няўстоек за невыкананьне ўмоў.

Гэтыя цяжкасьці, па нашай думцы, у паляўнічай сыстэме ў сучасны момант складаюцца з трох прычын: першая—гэта мабілізацыя паявых сродкаў і мэтавых узносаў у сыстэме праходзіць вельмі марудна. За 1931 год раённыя зьвеньні (т-вы паляўнічых) не дабралі паявых і мэтавых 35.000 рублёў, што складае 10 проц. пляну. Да мабілізаванага паямэтавага капіталу дэбетавая запазычанасьць мінулых гадоў складае па сыстэме значную частку сродкаў. Напрыклад па Мазырскаму райтаварыству гэта запазычанасьць дасягае да 37 проц. уласнага паявога капіталу. Праўленьне-ж гэтага т-ва палец аб палец не ўдарыла, каб спагнаць гэтую запазычанасьць.

Ня лепш абстаіць справа мабілізацыі паямэтавых сродкаў у першым квартале гэтага году. Замест таго, каб правесьці кампанію перарэгістрацыі ва ўстаноўленыя тэрміны праўленьні раённых т-ваў расьцягнулі яе на цэлыя месяцы. Былі выпадкі і бюракратычнага падыходу да перарэгістрацыі, як, напрыклад, Барысаўскае т-ва ня прыняла ад члена каапэрацыі ўсіх узносаў толькі таму, што ў яго (у паляўнічага) не хапіла аднаго рубля да сьледуемай з яго сумы.

Другой прычынай, якая мела ўплыў на манэўраваньне грашовымі сродкамі ў нашай каапэрацыі, было тое, што зацягнуўся на цэлы год узносаразьлік (пагашэньне запазычанасьці) між асобнымі раённымі зьвеньнямі і самым цэнтрам. Даўжнікі сьвядома ўхіляюцца ад уплаты запазычанасьці. Бабруйскае т-ва паляўнічых ужо больш трох месяцаў зацягвае аплату накладной платы па таварах у разьмеры 11.000 руб. Белкахотсаюзу. Ня лепш абстаіць справа і з шэрагам іншых раённых т-ваў. Такім чынам на першае лютага запазычанасьць Белкахотсаюзу раённых т-ваў па неаплочаных імі рахунках складае 120.000 руб. Гэта запазычанасьць цяжкім грузам ляжыць на балянсе Белкахотсаюзу.

Трэцяй прычынай, якая не дае магчымасьці наладзіць нармальны таваразварот—гэта накапленьне гадамі затаваранасьці няходкімі ў раённай мясцовасьці таварамі. Для рэалізацыі гэтай катэгорыі тавараў раённыя таварыствы паляўнічых робяць вельмі мала. Наадварот, у некаторых апэрацыйных працаўнікоў ёсьць імкненьні—і шкодныя імкненьні!—запасьціся, як мага больш таварамі, ня ўлічваючы іх спажывальнай каштоўнасьці ў данай мясцовасьці. Апрача таго, робяцца вялізарныя, да 100 проц. нацэнкі, як гэта мае месца ў Барысаўскім, Крычаўскім, Жлобінскім, Мазырскім раённых т-вах. Гэтыя раённыя т-вы думаюць, што ад 100-процантнага накладаньня на тавары павялічыцца накапленьне сродкаў. У выніку-ж выходзіць як раз наадварот: тавар слаба купляецца і становіцца нехадавым, між тым, як у іншых раёнах ёсьць попыт, але няма тавараў. Далей і абыходжаньне з пакупцамі служачых яшчэ даволі не ідэальнае, пад час грубое.

Мы зусім ня хочам сказаць, што ў гэтых недахопах вінаваты толькі нізавыя зьвеньні, бязумоўна частка віны падае і на Белкахотсаюз. І адшуканьне вінаватых таксама менш цікавіць нас, чым выпраўленьне, зжываньне гэтых хібаў у нашай рабоце. Мы імкнемся, галоўным чынам, да таго, каб хутчэй, на хаду перабудаваць сваю работу і зжыць гэтыя недахопы, па ўсёй сыстэме і не паўтарыць падобных памылак у будучыне.

На 1-I 1932 г. па сыстэме Белкахотсаюзу мелася нехадавых тавараў да 90.000 рублёў. Бязумоўна, што ў гэтую суму ўваходзіць некаторая лічба тавару, які вызначан для стымуляваньня пушных нарыхтовак. Але асобныя раённыя т-вы адносяць яго да „няходкіх“ тавараў, што зьяўляецца—па-першае, зусім ня верна, а, па-другое,—павялічвае затаварваньне.

Каб хутчэй зжыць гэтыя недахопы, па нашай думцы, неабходна адшукаць магчымасьць рэалізацыі на мясцох тавараў шляхам зьніжэньня накідак, і, па-другое—перакінуць з аднаго таварыства ў другое, з таго, дзе іх шмат, туды, дзе іх няма. У гэтым вельмі можа дапамагчы часопіс „Паляўнічы Беларусі“, завастрыўшы думку паляўнічай грамадзкасьці на гэтым пытаньні. Напрыклад у Касьцюковіцкім і Мсьціслаўскім раённых т-вах яшча з 1930 г. ў крамах ляжала на 6.000 рублёў мехавых тавараў, у той час, калі ў такіх раёнах, як Менскі, Віцебскі, вялізарны попыт на іх. Такіх прыкладаў можна прывесьці цэлы шэраг.

Усе гэтыя недахопы вельмі адмоўна адбіваюцца на выкананьні фінпляну, па мабілізацыі сродкаў, на таваразвароце і ў выніку сыстэма паляўнічай каапэрацыі, маючы грашовыя сродкі, застаецца бяз грошай.

Неабходна зараз жа ўзьняць барацьбу за выкананьне прамфінпляну, за наладжаньне таваразвароту, савецкага гандлю.

У першую чаргу, трэба ўвесьці жорсткую дысцыпліну па ўзаемных разьліках, па ліквідацыі дэбэтавай і паямэтавай запазычанасьці, праверыць тварныя запасы ў раённых крамах, зьнізіць накідкі і забараніць наперад рабіць іх звыш устаноўленых норм, весьці ў сыстэме вучот тавараў і ўстанавіць кантынгент ходкіх і няходкіх і г. д., спыніць гандаль не патрэбнымі для паляўнічай каапэрацыі таварамі і наблізіць гандлюючы апарат да спажыўца. Неабходна на аснове ажыцьцяўленьня 6 умоў т. Сталіна правесьці ў сыстэме гаспадарчы разьлік [1]), ліквідаваць абязьлічку, кулацкую ўраўнікаўку ў аплаце працаўнікоў апарату. Абязьлічка, ураўнілаўка і неправядзеньне сваячасова гаспадарчага разьліку зьяўляюцца галоўнымі тармазамі ў наладжваньні таваразвароту у паляўнічай каапэрацыі. А для гэтага неабходна наладзіць крытыку і самакрытыку нашай работы зьнізу ўверху і разгарнуць рабселькораўскі рух.

**П. Бабчонак.**

---

1) Аб гэтым ужо ня раз пісалася ў нашай часопісе.

# Стралковы спорт у паляўнічых арганізацыях і ячэйкі Асоавіяхіму

За апошнія гады вывучэньне паляўнічымі стралковай справы значна аслабла. Калі раней амаль кожнае раённае т-ва арганізоўвала стралковы спорт два разы ў месяц, не гаворачы ўжо аб такіх буйных цэнтрах, як Менск і Віцебск, дзе амаль кожны выхадны дзень зьбіраліся паляўнічыя пастраляць, дык пачынаючы з 1929 г., як я ведаю, у Менску, напрыклад, ня было ніводнага спаборніцтва. А ўсебеларускае спаборніцтва на лепшага стралка з паляўнічай і нарэзнай стрэльбы апошні раз адбылося аж у 1929 годзе. Стралковы спорт у паляўнічай каапэрацыі заглох, галоўным чынам, з прычыны таго, што гэтай справай у апошнія гады зусім ніхто ня цікавіўся. Ня толькі раённыя т-вы, але і больш буйныя гарадзкія арганізацыі паляўнічых не арганізавалі гэтай справы, не падрыхтавалі тыраў, не знайшлі адпаведнай колькасьці талерачак і машынак для пусканьня іх, не забясьпечылі своечасова паляўнічых боепрыладамі і г. д. Словам, ваенізацыяй паляўнічай масай ніхто ня цікавіўся.

Інакш становішча з стралковым спортам характарызаваць нельга, бо мы бачым, што ячэйкі Асоавіяхіму на прадпрыемствах і ўстановах гэтай работы ня толькі не аслабілі, а значна падвысілі.

Не заходзячы вельмі далёка ў дзейнасьць паляўнічай каапэрацыі ў напрамку разьвіцьця стралковай справы, вывучэньня паляўнічымі гэтай справы, навучэньня паляўнічага добра страляць, каб не калечыць дзічыны і ня выпускаць задарма набоеў у паветра, што зараз мае вялізарнае значэньне ў сэнсе эканоміі як дзічы, так і набоеў, мы скажам, што— апроч усяго гэтага справа ваенізацыі паляўнічых мае і іншае (палітычнае) значэньне.

І такім чынам, калі кіруючыя органы паляўнічай каапэрацыі выходзілі, не пашыраючы стралковы спорт сярод паляўнічых, з меркаваньняў эканамічнага характару, з таго, каб с'эканоміць якую-небудзь тону шроту, дык тут ёсьць глыбокая памылка. Усё тое, што было-б патрачана на навучэньне паляўнічага метка і хутка страляць, добра ўладаць і стрэльбай і тэхнікай страляньня з гакам акуплялася-б нават тымі промахамі, якія робіць самае малае на 50 проц. кожны паляўнічы пры страляньні па дзічыне. І зусім у гэтым няма нічога дзіўнага, калі прыняць пад увагу тое, што на працягу ня менш пяці месяцаў улетку паляўнічаму ня прыходзіцца брацца за стрэльбу, бо якасьць страляньня на паляваньні, галоўным чынам, залежыць не ад таго, што паляўнічы дрэнна „узяў на мушку". На мушку на паляваньні браць дзічыну ня прыходзіцца, бо дзічына чакаць вас ня будзе! Вернасьць стрэлу залежыць і ад таго, што паляўнічы, за час забароны паляваньня, адвыкае ад стральбы, губіць тыя „навыкі" ўскідкі, хуткага прыцэлу, якія ён набыў за сэзон, губіць нават спакой, ад чаго сьпяшаецца і пускае набой на ўдалую. І ня дзіва. Калі за ўвесь сэзон паляваньня лік промахаў ідзе за кошт першага дня адчыненьня паляваньня.

Мы ўстанавілі, што пяцьдзесят процантаў промахаў у кожнага паляўнічага за сэзон—гэта сярэдняя лічба. Выходзячы з гэтага мы можам павесьці прыблізны ітог набояў ад гэтых промахаў. Бяру прыклад з сябе і з маіх знаёмых паляўнічых. Звычайна ў летнюю пару, пры паляваньня на качак і цецярукоў прыходзіцца рабіць ня менш 10 стрэлаў у сярэднім. У нас на першае жніўня (да дню адчыненьня паляваньня) у мінулым годзе было 35 тысяч паляўнічых. Рэдка хто з паляўнічых ня выходзіць на першы дзень паляваньня. Прымаючы пад увагу, што гэтыя 35.000 чалавек робяць па 10 стрэлаў на круг і на 50 проц. „мажуць", дык выйдзе, што ў адзін толькі дзень мы выпускаем на вецер прыблізна 105.000 стрэлаў, што складае прыблізна тры з лішнім тоны толькі аднаго шроту. Калі гэтую лічбу памножыць на ўвесь сэзон, дык мы прыдзем да вялізарных разьмераў. А колькі глуміцца пакалечанай няўдачнымі стрэламі дзічыны, бо паляўнічы, нярэдка, нават ня ведае, на якую адлегласьць б'е наверняка яго стрэльба трапіць дзічыну.

З гэтага відаць, што шкадуючы боепрыладаў для навучаньня паляўнічага правільна і метка страляць, адкідаючы ўсе іншыя меркаваньні, мы шкодзім самі сабе. На самай справе, калі прадпрыемства садзіць за машыну закройшчыка, скажам, дык яно раней упэўніцца, якую кваліфікацыю мае закройшчык і, калі яе не дастае, раней навучыць яго, а потым ужо дасьць тавар для работы. Інакш гэты закройшчык толькі псаваў бы тавар. Зараз, калі мы пераходзім на вытворчыя мэтады працы, калі мы прыступаем да будаўніцтва рэнтабельных паляўнічых гаспадарак, праводзім эканомію ў сваім промысьле, з такой меркай, як да закройшчыка падыходзіць фабрыка, і мы павінны падыходзіць да паляўнічага.

Мы павінны навучыць маладога паляўнічага ўладаць тэхнікай страляньня, павінны эканоміць боепрылады, асабліва дзічыну, яго час, павінны навучыць хутка і метка страляць, браць зьвера наверняка, што, зноўжа, дапаможа нам выконваць пляны і тыя задачы, якія стаяць перад паляўнічай каапэрацыяй. Былі выпадкі, калі паляўнічы ўзяў толькі пятага зайца, ня гледзячы на тое, што зайцы былі ад яго недалёка ды яшчэ сядзелі. Такое страляньне нікуды ня варта.

Такім чынам прыходзім да вываду, што мы не павінны скупіцца даць якую-небудзь тону шроту для разьвіцьця стралковага спорту між паляўнічай масай. Белкахотсаюзу неабходна пахадайнічаць з гэтай мэтай перад належнымі органамі і атрымаць неабходны шрот. Іншая справа, што гэты шрот трэба расходваць эканомна і па назначэньню, але-ж гэта ад нас залежыць.

Неабходна сказаць некалькі слоў і аб вывучэньні страляньня з нарэзных стрэльбаў. Наша каапэрацыя аб'ядкае больш дзесяці тысяч паляўнічай моладзі. Гэта набывае вялізарнае значэньне. Работу нашых паляўнічых ячэек і раённых т-ваў у гэтым напрамку, нам здаецца, вельмі карысна ўвязаць з ячэйкамі Асоавіяхіму на прадпрыемствах, у саўгасах і калгасах. Тым больш, што на гэтых-жа прадпрыемствах ёсьць і паляўнічыя ячэйкі.

Такая мера, бязумоўна, задзейнічала-б разьвіцьцю стралковае справы, бо тут былі-б у наяўнасьці ўсе магчымасьці для гэтага.

Трэба падумаць аб высунутых тут мерапрыемствах і, да наступленьня вясны, вырашыць іх.

М. Ц.

# За нарыхтоўку другарадных відаў сыравіны

Так званыя другарадныя віды сыравіны—лектравы і іншыя расьліны, пухпяро, сушаныя грыбы і ягады, арэхі і жалуды—адыгрываюць вялізарную ролю ў нашым сацыялістычным будаўніцтве. Некаторыя з іх нават зьяўляюцца экспартнымі відамі сыравіны, як, напрыклад, лекавыя травы, пухпяро, грыбы і ягады. Апрача таго, гэтыя віды сыравіны зьяўляюцца вельмі неабходнымі і для нашай прамысловасьці,—як ягады для кансэрвных фабрык, і для палепшаньня нашага дабрабыту,—як лекавыя травы і пухпяро. У зьвязку з гэтым арганізацыя нарыхтовак у нашай каапэрацыі гэтых прадуктаў набывае вялізарнае значэньне.

Збор-жа ягад, грыбоў, лекавых траў насельніцтвам не вымагае ніякіх асаблівых затрат, таксама як захаваньне і продаж паляўнічым пухпяра дзікіх птушак, якіх ён здабывае на паляваньні. Між тым, гэты падсобны промысел—як збор ягад, грыбоў і лекавых траў, так і пухпяра, дае таму, хто займаецца ім, некаторы і даволі значны прыбытак.

Асабліва прыбытковым гэты промысел зьяўляецца таму, што тут не патрабуецца спэцыяльных (асаблівых) ведаў, што тут можна выкарыстаць вольны час—адпачынак, што на працу можна накіраваць школьную моладзь, піянэратрады, робячы з імі экскурсіі ў поле і знаёмячы з прыродай, паказваючы тыя расьліны, грыбы і ягады, якія зараз зьяўляюцца каштоўнымі і неабходнымі для нашае прамысловасьці.

Могуць займацца гэтай справай і пастушкі, абы толькі яны ведалі, якія расьліны ці іх плады зьбіраць, як і высушыць, дагледзіць, каб ня была страчана каштоўнасьць і куды іх здаваць.

Між тым, нам добра вядома, што гэта справа не папулярызавана ў калгасе, у саўгасе, у школе і вёсцы і нарэшце нават пухпяро ад забітай птушкі паляўнічым часта не выкарыстоўваецца, не гаворачы ўжо аб зборы яго пры ліняньні той або іншай птушкі. Гэта тлумачыцца і тым, што мы не навучыліся выкарыстоўваць, як належыць, прадукт паляваньня, не навучыліся разумна скарыстоўваць свой адпачынак і багацьце прыроды, так і тым, што ня было адпаведнага попыту на гэтыя продукты з боку кожнай каапэрацыі, паляўнічыя і іншыя масы ня былі ўцягнуты ў гэтую справу.

Паказчыкам разгортваньня гэтай работы, слабога разгортваньня нарыхтовак другарадных відаў сыравіны нашай каапэрацыяй служаць вельмі малыя вынікі нарыхтовак іх у 1931 годзе; можна сказаць, гэтыя нарыхтоўкі былі сарваны. Так, дзяржаўнымі адпаведнымі ўстановамі плян для паляўнічай каапэрацыі па гэтых нарыхтоўках быў вызначан: па лекавых травах—на 120.000 рублёў, здана сыравіны толькі на 8.000 рублёў (усяго $7^1/_2$ проц.), па пухпяру—на 9.600 рублёў, здана—на 907 рублёў (каля 10 проц.) у той час, як спажывецкай і сельскагаспадарчай каапэрацыяй на гэты-ж пэрыяд гэтыя віды нарыхтовак па пляну значна перавыкананы.

У чым тут сакрэт?

Сакрэт у тым, што вышэйпаказаныя сыстэмы каапэрацыі ня ў прыклад нашай па-бальшавіцку скарысталі ўсе магчымасьці ў нарыхтоўцы другарадных відаў сыравіны, яны на практыцы ажыцьцявілі 6 умоў т. Сталіна, ліквідавалі ў гэтай справе абязьлічку, арганізавана працавалі ў гэтым напрамку, мабілізуючы насельніцтва, у той час, калі наша (паляўнічая) каапэрацыя паклалася ў гэтай справе на самацёк, а то і самым яскравым чынам ігнаравала гэтыя нарыхтоўкі і адмаўлялася прымаць лектравы, пухпяро, грыбы і ягады. Такія адносіны да справы некаторых раённых працаўнікоў, такое неразуменьне задачы і не пераключэньне апарату свайго т-ва на новыя мэтады працы, ажыцьцяўляючы на практыцы 6 умоў т. Сталіна, прывялі да таго, што і пляны па пушных і меховых нарыхтоўках выкананы паляўнічай каапэрацыяй ў 1931 г. толькі на 67 проц.

У сучасны момант, пры пераключэньні паляўнічай каапэрацыі на вытворчую працу, на разьвіцьцё паляўнічага промыслу, на адшуканьне дадатковых рэсурсаў для нашага пасьпяховага сацыялістычнага будаўніцтва, нарыхтоўкі так званых **другарадных відаў сыравіны павінны стаць першараднымі.** І нечага ўдарацца некаторым нашым працаўнікам у крайнасьць, у гандаль. Гандаль зараз павінен быць у нашай каапэрацыі толькі ў той меры, у якой гэта патрэбна для нашага сацыялістычнага будаўніцтва для мабілізацыі сродкаў, гандаль зьяўляецца ў нашай сыстэме, так сказаць, праводзячай сеткай некаторых тавараў для спажыўца.

Такім чынам, паляўнічая каапэрацыя павінна разгарнуць адпаведную працу па нарыхтоўцы другарадных відаў сыравіны, павінна зацікавіць масу зборам вышэйпаказаных відаў сыравіны, пухпяра. Для нашай каапэрацыі дадзена заданьне на 1932 г. займацца нарыхтоўкамі ня толькі пушніны і мехсыравіны, а разам з гэтым, не аслабляючы тэмпаў апошніх, а ўсе павышаючы іх, нарыхтоўваць мяса забітай дзічыны і пухпяро, лекавыя травы, грыбы ягады і інш. І дадзена гэта заданьне ў даволі значным разьмеры, але ўпаўне рэальным, разьлічаным на нашы сілы. З свайго боку мы павінны арганізаваць так нашу работу, так арганізаваць паляўнічую масу і іх сем'і, каб гэтыя заданьні ня былі, па прыкладу мінулых год сарваны. Мы павінны ўлічыць урокі мінуўшчыны.

Заданьне па сутнасьці невялікае і раённыя т-вы павінны ня толькі ўключыцца ў работу па выкананьні яго, але і арганізаваць паляўнічую масу для высоўваньня сустрэчнага пляну па ўсіх нарыхтоўках нашае сыстэмы каапэрацыі.

**П. Бабчонак.**

---

**Паляўнічыя!**

**Здабывайце грызуноў—хамяка, суьсліка, крата і вадзянога пацука.**

**Адны суьслікі і хамякі паядаюць мільёны цэнтнераў зерня.**

# Барацьба за шкуркі

У лютым гэтага году адбыліся дзьве нарады нарыхтоўшчыкаў пушніны двох раёнаў. Адна нарада адбылася пры Бабруйскім РВК 2-II 1932 г., на якой прысутнічалі прадстаўнікі райснабу, саюзу паляўнічых, райсаюзу, лесрабкоопа і супрацоўнікі Наркамзамежгандлю. На павестцы дня стаяла толькі адно пытаньне, гэта выкананьне плянаў нарыхтовак пушмехсыравіны. Нарадай устаноўлена, што пляны пушмехнарыхтовак за 1931 г. і першы квартал 1932 году выканан наступным чынам:

| Назва арганізацыі | За 1931 год | | | | | | За 1-шы квартал 1932 г. | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Пушніна | | | Мехсыравіна | | | Пушніна | | | Мехсыравіна | | |
| | Заданьне | Выканана | % вык. | Заданьне | Выканана | % вык. | Заданьне | Выканана | % вык. | Заданьне | Выканана | % вык. |
| Райсаюз паляўн. | 7.500 | 4.066 | 53 | 2.300 | 2.684 | 116 | 1.800 | 1.129 | 63 | 750 | 352 | 46,5 |
| Райсаюз | 4.300 | 2.300 | 51,2 | 7.700 | 3.693 | 47,4 | 1.000 | 348 | 34,8 | 1.000 | 163 | 16,3 |

Другая нарада адбылася пры Ўзьдзенскім РВК 25 лютага гэтага году. І на гэтай нарадзе, як і на першай, прысутнічалі прадстаўнікі ад усіх зацікаўленых у пушмехнарыхтоўках арганізацый. Пляны пушмехнарыхтовак па Ўзьдзенскаму раёну выканан наступным чынам:

| Назва нарыхтоўчых арганізацый | 1931 г. | | 1932 г. студзень | | 1932 г. люты | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Процант выкананьня | | | | | |
| | Пушніна | Мехсыравіна | Пушніна | Мехсыравіна | Пушніна | Мехсыравіна |
| Райсаюз паляўнічых | 117 | 62 | 780 | 9 | 210 | 42 |
| Райсаюз | 30 | 8 | 65 | 2 | 125 | — |
| Райкалгассаюз | 74 | 107 | 87 | 114 | 218 | 196 |
| Белпушніна | 58 | 150 | 202 | 110 | 278 | 24 |
| Белшкурсындыкат | — | $12^1/_2$ | — | — | — | — |

З вышэйпаказаных табліц выкананьня плянаў па Бабруйскаму і Ўзьдзенскаму раёнах мы бачым, што пляны як у 1931 г., так і ў 1932 годзе недавыкананы. Асабліва вялікае недавыкананьне плянаў па Бабруйскім раёнам.

У чым-жа прычына недавыкананьня плянаў?

На гэта пытаньне мы пастараемся даць адказ з пратаколаў паседжаньня вышэйпаказаных нарад.

**Перш-на-перш прычына ў тым,** што праўленьні таварыстваў саюзу паляўнічых не зразумелі таго палітычнага значэньня, якое набываюць у нашым жыцьці, для нашага сацыялістычнага будаўніцтва пушныя нарыхтоўкі, бюракратычна адносіліся да сваячасовага і поўнага забесьпячэньня паляўнічых боепрыладамі. Яны не зразумелі таго, што ад забесьпячэньня паляўнічых боепрыладамі залежыць, у канечным ліку, выкананьне пушмехнарыхтовак. У пастанове паўнаважанага Наркамзамежгандлю СССР пры СНК БССР ад 15/IX 31 г. гаварылася, што ўсе паляўнічыя, з якой-бы яны паляўнічай арганізацыяй не заключылі ўмоў на здачу прадукту свайго промысла, пушніны і мехсыравіны, павінны паляўнічай каапэрацыяй забясьпечвацца боепрыладамі. Між тым, старшыня Бабруйскага т-ва паляўнічых забараніў выдаваць боепрылады тым паляўнічым, якія здаюць пушніну не ў сваю каапэрацыю, а іншым загатоўчым арганізацыям. Хаця гэты старшыня і атрымаў умову, але мы бачым, што гэтага мала, бо яго дзейнасьць у забесьпячэньні паляўнічых боепрыладамі нельга інакш характарызаваць, як дзейнасьць, накіраваную на зрыў пушмехнарыхтовак, як дзейнасьць бюракрата, валакітчыка, які загруз у мора канцэлярскіх спраў і не ўваходзяць у палітычную сутнасьць пушмехнарыхтовак.

Такія-ж адносіны да забесьпячэньня паляўнічых нарад канстатавала і жорстка раскрытавала іх і ў Узьдзенскім раёне.

**Другая прычына**, якая перашкаджала пушмехнарыхтоўкам, адзначаная нарадай у Бабруйскім раёне, гэта падвышэньне некаторымі загатоўчымі арганізацыямі цэн на пушніну. Так, напрыклад, Бабруйскі райсаюз плаціў за шкурку зайца 60 кап. Гэта таксама вяло да зрыву нарыхтовак, да затрыманьня здатчыкамі пушніны з мэтай чаканьня падвышэньня цэн з іншымі загатоўчымі арганізацыямі.

**Трэцяя прычына,** гэта вельмі малы ахоп паляўнічых контрактацыяй і адсутнасьць праверкі выкананьня контрактацыйных умоў. Так, напрыклад, па Ўзьдзенскаму райсаюзу зусім ня было паступленьня пушніны, па райкомсаюзу гэта паступленьне выявілася ад калгасаў на 70 руб., ад аднаасобнікаў на 15 руб. Па Белпушніне ад калгасаў на 41 руб., а ад аднаасобнікаў—167 рублёў.

**Чацьвертая прычына** недавыкананьня плянаў пушнамехнарыхтовак заключаецца ў тым, што яшчэ

і да гэтага часу ня зжыта абязьлічка, не разгорнуты сацыялістычныя мэтады працы, не ажыцьцяўлены 6 умоў т. Сталіна, як гэта паказваюць пратаколы паказаных нарад; прэміяльны фонд выкарыстоўваецца або недастаткова, або проста ня верна. Што гэта такое, калі ня дзейнасьць, накіраваная да зрыву плянаў, Узьдзенскага праўленьня т-ва паляўнічых, якое выдавала па 25 кілё цукру ў адны рукі?

І апошняя прычына—гэта тое, што ня былі арганізаваны брыгады паляўнічых, а некаторыя калгасы, ня гледзячы на пэўныя ўказаньні ўрадавых органаў не адпускалі ў добрае надвор'е для паляваньня тых паляўнічых калгасьнікаў, якія заключылі ўмовы на здачу пушніны з загатоўчымі арганізацыямі.

Белкахотсаюз, Белкаапсаюз, Калгасцэнтр павінны зжыць вышэйпаказаныя недахопы, у той ці іншай меры залежачыя ад іх. **Пушніна—валюта, пушніна—трактары і машыны для нашага сацыялістычнага будаўніцтва, і на яе варта зьвярнуць усім увагу.**

Але нарадамі былі выяўлены і такія, ня ўмеру „ретивые“ загатаўцы, якія сваёй дзейнасьцю шкодзілі паляўнічай гаспадарцы. Так, напрыклад, Райсаюз Бабруйскага раёну нарыхтоўваў вавёрку летняга браканьерскага адстрэлу. Гэтым райсаюз пакрываў і даваў стымул для далейшай дзейнасьці браканьераў і глуміў бескарысна каштоўную жывёлу, бо вавёрка летняга адстрэлу ня мае ніякай таварнай вартасьці. Трэба праверыць дзейнасьць Бабруйскага райсаюзу.

Нарэшце, трэба адзначыць і тое, што да гэтага часу не давалася цьвёрдага заданьня па нарыхтоўцы мехсыравіны кулацка-заможнаму элементу вёскі. У гэтым ёсьць памылка. Калі кулакі і вычышчаны і вычышчаюцца з паляўнічай кааперацыі, калі ў іх і адбіраюцца стрэльбы, дык ва ўсякім выпадку трэба даць ім цьвёрдае заданьне па адлову крата і іншых грызуноў, для якой справы не патрабуецца быць паляўнічым і мець стрэльбу.

Вось гэтыя дэфэкты выявілі паказаныя нарады і далі ўказаньні зжыць іх. Трэба практыкаваць такі мэтад працы і надалей.

Ц—ш.

## Выканаўшых плян на чырвоную дошку

За выкананьне і перавыкананьне плянаў пушназагатовак у першым квартале 1932 г. заносяцца на чырвоную дошку наступныя раённыя таварыствы паляўнічых.

| Назва т-ва | Заданьне на I кв. (у рублёх) | Выканана ў I кв. (у рублёх) |
|---|---|---|
| Петрыкоўскае | 1200 | 1214 |
| Глускае | 1000 | 2047 |
| Лагойскае | 900 | 988 |
| Расонскае | 900 | 928 |
| Старадароскае | 800 | 850 |

Адначасна з гэтым зусім ня далі Белкахотсаюзу зьвестак аб ходзе пушназагатовак у першым квартале наступныя т-вы: Веткаўскае, Дубровенскае, Жыткавіцкае, Касьцюковіцкае, Койданаўскае, Лёзьнянскае, Лельчыцкае, Цэрахоўскае, Талачынскае, Тураўскае, Узьдзенскае, Чачэрскае і Бабруйскае.

Пасьля праверкі выкананьня плянаў паказаныя т-вы будуць занесены на чорную дошку, як ня выканаўшыя пляваў.

## Рапарт

### Старшыне праўленьня „Всекохотсоюза“ т. Кірыеўскаму

### Упаўнаважанаму НКЗГ СССР пры СНК БССР т. Рэдэру.

**Праўленьне Белкахотсаюзу рапартуе, што пад кіраўніцтвам партыі і ўраду, паляўніч.-кааперацыйяй сыстэмы Белкахотсаюзу плян 1-га кварталу 1932 году па загатоўках пушмехсыравіны выканан датэрмінова да 10 сакавіка на 103,6 проц.**

**Плян па пушніне ў 67.220 руб. выканан на 83.203 р.—123,8 проц., па мехсыравіне ў 49.400 р. выканан на 30.407 р.—71,7 проц., разам 109.620 р. выканан на 113.609 р.—103,6 проц.**

**Не застанаўліваючыся на дасягнутых посьпехах сыстэмы, праўленьне Белкахотсаюзу прымае ўсе меры да перавыкананьня пляну I кварталу і забесьпячэньню выкананьня і перавыкананьня пляну II кварталу 1932 г. — 4-га рашаючага году пяцігодкі.**

**У выкананьні і перавыкананьні пляну I кварталу прынялі актыўны ўдзел 39 райпаляўніч. таварыстваў сыстэмы.**

**Праўленьне Белкахотсаюзу хадайнічае перад вамі аб дадатковым выдзяленьні 50 шт. экспартных стрэльбаў для разьмеркаваньня іх сярод ударных ахотраёнаў, перавыканаўшых пляны.**

**Старшыня праўленьня Белкахотсаюзу ВОЛДЗІН.**

**Сябр праўленьня БАБЧОНАК.**



# 6 умоў т. Сталіна не ажыцьцяўляюцца

Процант выкананьня плянаў пушнамехавых загатовак зьяўляецца паказальнікам таго, у якой меры нашы т-вы паляўнічых спраўляюцца з арганізацыяй работы ў гэтым напрамку. З гэтага пункту гледжаньня неабходна разглядаць і работу Мазырскага, Ельскага і Нараўлянскага т-ваў.

Згодна плянавых заданьняў Белкахотсаюзу Мазырскае т-ва павінна было нарыхтаваць у першым квартале на 1.800 руб. пушніны і на такую суму мехсыравіны. Улічваючы багацьце паляўнічай фауны ў Мазыршчыне рэальнасьць такога пляну для Мазырскага т-ва больш чым відавочна. А з гэтае прычыны спасылкі на „аб'ектыўныя прычыны“ самі па сабе адпадаюць. Таму для таго, кабператварыць адзначаную магчымасьць у рэальнасьць у дачыненьні да Мазырскага т-ва, трэба было толькі належным чынам наладзіць справу загатовак.

Аднак на 1-IV—32 г. вызначаны квартальны плян т-вам выканан толькі на 60 проц., па пушніне і на 40 проц. наогул. У зьвязку з гэтым зусім заканамерным зьяўляецца зараз пытаньне, у чым прычына такога нездавальняючага становішча, якое проста называецца зрывам.

Для таго, каб адказаць на такое пытаньне, мы пададзім адпаведныя лічбы па Ельскім і Нараўлянскім раёнах. У першым з іх плянавае квартальнае заданьне ў 1.600 руб. па пушніне і 1.200 руб. па мехсыравіне выкананы на 55 і 48 проц. (таксама па зьвестках на 1-IV). Такім чынам і па Ельскім раёне ў агульным плян выкананы на 50 проц.

Прыблізна такі-ж малюнак наглядаецца і ў Нараўлянскім т-ве, дзе агульны процант выкананьня пляну па загатоўцы пушніны і мехсыравіны вызначаецца лічбай—45.

Высьвятленьне прычын гэтага па трох раёнах дае падставу заключыць, што яны (прычыны) для кожнага з адзначаных раёнаў аднолькавы. Галоўнай з іх зьяўляецца ў значнай ступені тое, што асноўны мэтад работы і сродак выкананьня плянаў—кантрактацыя не знаходзіць належнага праламленьня ў барацьбе за пушніну і мехсыравіну. Пры чым, асабліва неабходна падкрэсьліць зараз той адмоўны і характэрны ня толькі для даных т-ваў, але і для большасьці іх (і таму яшчэ больш адмоўны) факт, што галоўным недахопам, які перашкаджае належнаму скарыстаньню мэтаду кантрактацыі, заключаецца ў адсутнасьці сталага кантролю над рэалізацыяй заключаных дагавароў. Бо ў большасьці раёнаў наглядаецца зараз такі малюнак. У парадку выкананьня дырэктывы адпаведных вышэйшых арганізацый райтаварыствы на мясцох больш-менш ахапляюць дагаворамі сяброў саюзу паляўнічых, хоць і назаўсёды, як належыць. Між іншым, трэба адзначыць, што галоўны ўпор пры гэтым робіцца галоўным чынам на паасобных паляўніных, рэдка—на групы і брыгады іх і яшчэ менш—на заключэньне дагавароў з арганізацыямі—калгасамі, саўгасамі і г. д. А таму такая акалічнасьць перш за ўсё ўскладняе работу райтаварыстваў у напрамку кантролю і праверкі выкананьня ўмоў асобнымі паляўнічымі, а, па-другое, пазбаўляе апошніх магчымасьці адпаведным чынам утвараць і самае паляваньне. Бо вельмі часты выпадкі, калі праўленьні, напрыклад, калгасаў не заўсёды ўлічваюць важнасьць паляваньня і ў патрэбны для яго час, не заўсёды выклікаюць калгасьнікаў-паляўнічых ад іншай калгаснай работы.

Аднак, паўтараем, галоўнае ня ў гэтым. Бо ўся існасьць у тым, што нават там, дзе дагаварамі ахоплены амаль усе паляўнічыя (Мазыр, Ельск), нават там пляны сваячасова ня выконваюцца. Ня выконваюцца таму, што самі райтаварыствы не заўсёды, як належыць, здольны наладзіць кіраўніцтва і работу ў напрамку загатоўкі нават у межах заключных дагавароў. Канкрэтна гэта выражаецца ня толькі ў адсутнасьці зьбіраньня патрэбных вестак ад нізавых ячэек (гэта хутчэй тэхнічны бок справы, які, аднак, некаторыя т-вы лічаць галоўным момантам работы ў адзначаным напрамку). Гэта выражаецца галоўным чынам у тым, што таварыствы ня могуць стымуляваць выкананьне ўзятых т-вамі абавязкаў. Інакш, для гэтае мэты не заўсёды як трэба скарыстоўваюцца перш за ўсё прэміявальныя фонды (мы ведаем выпадкі, калі адно з райтаварыстваў цукар, які загатоўчы прэміявальны прадукт, замест выдачы яго здатчыкам паляўнічай прадукцыі, пачало была разьмяркоўваць па кніжках і прапарцыянальна паміж усімі сябрамі саюзу). І галоўнае, для таго, каб дамагчыся адпаведных тэмпаў у выкананьні заключаных дагавароў, не ў дастатковай меры, проста слаба скарыстоўваецца такі сродак, як усялякія формы масавай работы. Да іх трэба аднесьці скліканьне пэрыядычных інструкцыйных нарад кіраўнікоў вясковых ячэек і актывістаў паляўнічых, растлумачальную работу праз насьценгазэты. Пры ўсім гэтым барацьба за паляўнічага ўдарніка і за сацыялістычныя мэтады работы — сацспаборніцтва паміж асобнымі паляўнічымі і паміж групамі, брыгадамі іх, а таксама і паміж ячэйкамі павінна быць на першым пляне.

Усё вось гэта і мала скарыстоўваецца, каб не сказаць зусім не скарыстоўваецца, і Мазырскім, і Ельскім, і Нараўлянскім т-вамі. Таму і выкананьне плянаў пушнамехавых загатовак мае адзначаны малюнак і на палову ня выкананы, а значыць сарваны. У сваю чаргу адзначаныя недахопы ў рабоце маюць свае прычыны, галоўнымі з якіх зьяўляюцца непрыстасаванасьць апарату праўленьняў адзначаных т-ваў да выкананьняў тых задач, што стаяць зараз перад паляўнічай каапэрацыяй наогул. Прычым, у гэтым вінаваты не асабіста працаўнікі вызначаных т-ваў. Ва ўсякім выпадку ня толькі яны, бо справа ў тым, што паляўнічая сыстэма цалкам (асабліва райтаварыствы) не рэарганізаваны і (у сэнсе разьмяшчэньня працаўнікоў і дасканалага вызначэньня функцый кожнаму з іх) у адпаведнасьці з патрэбнасьцю ажыцьцяўленьня 6 умоў т. Сталіна. Як і кожная гаспадарчая адзінка, наша паляўнічая гаспадарка мае некалькі спэцыяльных галін. Так, напрыклад, Мазырскае таварыства мае ў сваім веданьні заказьнікі і трусятнік, Ельскае—трусятнік і г. д. У адпаведнасьці з гэтым і апарат праўленьня абавязкова павінен мець у сваім складзе і адпаведных працаўнікоў—спэцыялістаў, якія кіравалі-б гэтымі галінамі. Апошніх жа пададзеныя таварыствы акурат і ня маюць. А гэта значыць, што даныя галіны работы абязьлічаны. У лепшым выпадку фармальна за іх адказвае старшыня праўленьня. Але-ж ён адказвае толькі ў той меры, у якой адказвае і за ўсю работу т-ва. Інакш кажучы, ён нават і пры ўмове адказнасьці за ўсе галіны працы, проста не спраўляецца,

як належыць, кіраваць імі. Бо астатнія члены праўленьня—працаўнікі па сумяшчальнасьці і па сутнасьці зусім не працуюць. Апошняе мы кажам таму, што нельга-ж лічыць працаю іх—удзел у паседжаньнях праўленьня, якія да таго-ж адбываюцца часам 1—2 разы ў год. Перагрузка-ж старшыні праўленьня і ўвага яго „пакрыху да кожнай галіны“ ня можа забясьпечыць належную пастаноўку работы кожнай з спэцыяльных галін работы—у тым ліку і ў галіне загатовак, якімі ў большасьці „кіруе“ крамнік (прымае паляўнічую прадукцыю, выдае прамтавары, адзначае ў кніжках і г. д.) І зноў-такі гэта масавая зьява.

Выходзячы з усяго гэтага мы і ставім зараз пытаньне аб адпаведнай рэарганізацыі апаратаў праўленьня ў сэнсе ўкамплектаваньня іх адпаведнай колькасьцю сталых працаўнікоў з разьмежаваньнем сталых функцый паміж імі, бо бяз гэтага аб выкананьні 6 умоў т. Сталіна ня можа быць і гутаркі. Гэта неабходна, такім чынам, зрабіць і ў дачыненьні да Мазырскага, Ельскага і Нараўлянскага т-ваў, перад якімі стаіць задача—прарыў у загатоўках пушніны за першы квартал спагнаць у другім квартале за лік мехсыравіны.

**А. С—ка.**

## Петрыкаўскае т-ва паказала бальшавіцкія тэмпы

Выпіска з пастановы № 5 ад 2 лютага 1932 г. Петрыкаўскага РВК.

„За тэрміновае выкананьне пляну мабілізацыі сродак за 1 квартал 1932 г. праўленьне раённага саюзу паляўнічых абвясьціць падзяку і выдаць адзін гадзіньнік для прэміраваньня лепшага і актыўнага ўдарніка фінансавага фронту.

Старшыня райштабу і РВК—Хавін“.

„Праўленьне Белкахотсаюзу ад імя ўсёй паляўнічай грамадзкасьці шчыра вітае Петрыкаўскае раённае т-ва паляўнічых, якое паказала бальшавіцкія тэмпы ў справе мабілізацыі сродкаў і выканала сваячасова прамфінплян за 1-ы квартал 1932 г.“ Трэба адзначыць, што Петрыкаўскае т-ва занесена на чырвоную дошку і па выкананьні пляну пушмехнарыхтовак. Іншыя раённыя таварыствы павінны браць прыклад з Петрыкаўскага т-ва.

## Перадаць іх вопыт

Слуцкія паляўнічыя занесены на чырвоную дошку ў часопісі „П. Б.“ (№ 1, 1932 г.) за перавыкананьне пляна пушнамехнарыхтовак. Цікава адзначыць той мэтад працы, якім дасягнулі яны посьпехаў у сваёй рабоце.

Вось што нам піша наш карэспандэнт т. **Х. Густорнік**. „Для таго, каб лепей было высьвятляць усе недахопы таварыства, каб разгарнуць крытыку і самакрытыку, паляўнічыя арганізавалі насьценгазэту, якая па ўдарнаму ўзялася за работу па выкананьні плянаў пушмехнарыхтовак. Праз газэту было разгорнута сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Зрыўшчыкі, гультаі, нядбайнікі, апартуністы ўсіх колераў кляйміліся насьценгазэтай, якая заносіла іх на чорную дошку. На чырвоную дошку заносіліся змагары за пушніну, за яе добрую апрацоўку, за сваячасовую здачу і выкананьне кантрактацыйных дагавароў“.

Такім чынам змагаліся слуцкія паляўнічыя за выкананьне плянаў свайго таварыства. Вопыт случчан перадаць іншым.

**Х. Г.**

## Раўняцца па Панфіловічу

**Панфіловіч** стары паляўнічы. Яму ўжо 62 гады, але ў яго жылах цячэ маладая кроў. **Панфіловіч** ведае беспрасьветную мінуўшчыну, ведае царскія законы аб паляваньні.

Панфіловіч добры паляўнічы. Ён ня толькі ўмее верна ўзяць на мушку зьвера, але ўмее і будаваць паляўнічую гаспадарку. Ён ведае і тое, калі лепш за ўсё здабыць зьвера ці птушку, каб яна як мага больш прынесла карысьці нашай гаспадарцы.

З першага студзеня **Панфіловіч** заключыў кантрактацыйны дагавор з сваім таварыствам паляўнічых. Ня гледзячы на свае гады, якія цяжкім грузам давяць яго плечы, ня гледзячы на завеі, на халады, Панфіловіч заняўся паляваньнем. — „Як так, каб я зьвера не здабыў? Як гэта можна, каб я дагавор ня выканаў, слова ня стрымаў? Шэсьцьдзесят год жыў, а гэтага ня было! Ня можа быць!“

І ледзь брызьне алымі фарбамі сьвет на ўсходзе, Панфіловіч, згорбіўшыся ідзе да ляска, які сінеецца на белым фоне зімы. А там, глядзі, ужо і падперазаўся пушыстай шкурай рыжай лісы.

Так паляўнічы **Панфіловіч** паляваў і выканаў свой абавязак перад таварыствам. Зараз Панфіловіч прэміруецца як лепшы ўдарнік.

**П—ра.**

---

**Таварышы паляўнічыя! Рэдакцыя часопісі „Паляўнічы Беларусі“ адчувае вялікі недахоп паляўнічых малюнкаў. Прысылайце ў рэдакцыю малюнкі. За кожны малюнак рэдакцыя выплачвае гонорар да 3 рублёў.**

# Падрыхтавацца да прыёму акотаў у трусаводных гаспадарках

У зьвязку са спэцыялізацыяй нашай паляўнічай гаспадаркі мы наглядаем, асабліва за апошнія гады, разьвіцьцё цэлага раду спэцыяльных паляўнічых саўгасаў, калгасаў, прыпісных гаспадарак і г. д. Значнае месца сярод такіх гаспадарак займаюць, бясспрэчна, спэцыяльныя трусагадоўчыя гаспадаркі, якія існуюць пры вялікай колькасьці нашых раённых т-ваў паляўнічых.

Ня трэба гаварыць і даводзіць зараз, што гэтыя гаспадаркі набываюць вялікае значэньне з пункту гледжаньня як загатоўкі пушніны і мехсыравіны, так і вырашэньня тушной (мясной) праблемы. Гэта акалічнасьць і вымагае ад нас пільнай увагі да разьвіцьця і організацыі справы трусагадоўлі. Між тым, становішча работы ў гэтым напрамку на мясцох не ва ўсіх галінах налажана як трэба. Так, напрыклад, большасьць нашых трусятнікаў на сёнешні дзень больш-менш укамплектаваны. Але ж такое укамплектаваньне не забясьпечвае выкананьне плянавых заданьняў, і адно гэта ужо зьяўляецца пагрозай. Праўда Белкахотсаюз, скажам, мае магчымасьць рэгуляваць укамплектаваньне шляхам перакідваньня налічнай колькасьці трусоў з аднаго раёну ў другі. Але прычына зноў-жа ня ў гэтым. Галоўнае ў тым, што становішча матар'яльнага будаўніцтва на сёнешні дзень знаходзіцца ў такім становішчы, якое пазбаўляе магчымасьці павялічаць пагалоўе стада за кошт новага прыплоду.

Апошняе мы кажам таму, што зараз надыходзіць новая акотная кампанія. Аднак, не зважаючы на гэта, большасьць нашых трусятнікаў, не падрыхтаваны да гэтай кампаніі.

Так, Мазырскае, Ельскае, напрыклад, т-вы яшчэ і зараз ня прыступілі да будаўніцтва выгулаў і наогул да такога абсталяваньня трусятнікаў, якое дазволіла-б як належыць прыняць і выхаваць маладняк. Пры чым горш за ўсё тое, што такое становішча наглядаецца ў пераважнай большасьці раёнаў і трусятнікаў.

У чым тут справа?

Можа хто скажыць — у тым, што ў гэтай галіне адсутнічае належнае кіраўніцтва з боку Белкахотсаюзу, а мо' ў тым, што такога становішча не разумеюць нашы райтаварыствы? Аднак, такая думка не адпавядала б рэчаіснасьці. Бо як інструктар і кіраўнік сэктарам трусагадоўлі Белкахотсаюзу, Сушкевіч, так і Мозырскае і Ельскае т-вы разумеюць, што такое становішча ня толькі не нармальнае, але проста пагражаючае. І ня зважаючы на гата факт застаецца ўсё такі фактам, бо выгулы, клеткі ня будуюцца.

Чаму? Таму што няма сродкаў, адказваюць працаўнікі адзначаных т-ваў. Таму што Белдзяржснаб ня выконвае заявак, скажа т. Сушкевіч, а Белкахотсаюз не адпускае неабходнай колькасьці грошай для закупкі магчымых і неабходных будаўнічых, перш за ўсё, матар'ялаў на мясцох. А справа, тым часам, ня рухаецца з месца.

Між іншым, неабходна адзначыць, што 5-III Белкахотсаюз накіраваў спэцыяльную дакладную запіску ў камісію выкананьня пры СНК Беларусі, у якой абмаляваў дакладна становішча справы і асабліва падкрэсьліў ня выкананьне заявак адпаведнымі арганізацыямі (Белдзяржснабам, Наркамземам, Насеннаводтрэстам і г. д.).

У зьвязку з гэтым магчыма, што заяўкі па лініі гэтых арганізацый будуць і выкананы. Але-ж хоць гэта адбудзецца і сапраўды, райтаварыствам на мясцох тым ня менш неабходна зараз-жа пераключыцца на максымальную мабілізацыю ўнутраных рэсурсаў для таго, каб у самы бліжэйшы тэрмін ліквідаваць той прарыў, што ў адзначанай галіне работы зараз наглядаецца.

Для гэтага перш за ўсё неабходна канчаткова ліквідаваць абязьлічку на мясцох. Бо як у памяненых т-вах, так і наогул ў большасьці з іх яшчэ і да гэтага часу наглядаецца такое становішча. Звычайна трусятнікамі загадваюць трусаводы (да рэчы адзначым, у большасьці сваёй далёка не адпавядаючых свайму прызначэньню). Але-ж справа ў тым, што трусаводы, як загадчыкі трусятнікаў, ведаюць галоўным чынам толькі справаю кармленьня, догляду трусоў і інш.

Справа-ж будаўніцтва неабходнага абсталяваньня і наогул пэрспэктывы ўсебаковага разьвіцьця трусятніку з мэтаю найвялікшай інтэнсыфікацыі і рэнтабілізацыі яго да трусавода нібы-та і не датычыцца. Гэтым ведае звычайна праўленьне т-ва. А з тае прычыны, што ў многіх раёнах усё праўленьне складаецца часам з т. т., якія ўваходзяць у гэты склад па сумяшчальнасьці і больш таго, — часам усёю справаю т-ва ведае адзін толькі крамнік, які заняты галоўным чынам работаю крамы, менавіта з гэтае прычыны і атрымоўваецца, што будаўнічая (у сэнсе матарыяльнага будаўніцтва) справа ў трусятніку абязьлічана. Выходзячы з гэтага і неабходна зараз зьвярнуць асаблівую ўвагу на падшуканьне такіх кіраўнікоў трусятніку, якім можна было-б даручыць будаўніцтва трусагадоўчай гаспадаркі ў самым шырокім сэнсе гэтага слова, усклаўшы на іх цалкам і адказнасьць за гэту справу.

У сувязі з гэтым і Белкахотсаюзу неабходна было-б абавязкова організаваць хоць-бы каротка тэрміновыя спэцыяльныя курсы па падрыхтоўцы працаўнікоў-загадчыкаў трусятнікамі. Бо зараз трэба проста і адкрыта сказаць, што такіх працаўнікоў большасьць нашых райтаварыстваў (у якіх ёсьць трусятнікі) ня маюць.

Разам з гэтым Белкахотсаюзу неабходна дабіцца тэрміновага выкананьня заявак на водпуск неабходнага матар'ялу для будаўніцтва абсталяваньня трусятнікаў (лесу, цьвікоў і інш.). Самім-жа райтаварыствам на мясцох неабходна скарыстаць для гэтай мэты мясцовыя матар'ялы: лазу, жэрдзі (для загарадзей, напрыклад) пілаваны лес, старыя будынкі. Бо трэба запамятаць адно: на сёнешні дзень пытаньне стаіць такім чынам, што ўсё неабходнае для прыёму новага акоту абавязкова павінна быць зроблена. Да рэчы для вынаходжаньня неабходных грашовых сродкаў на трусагадоўлю Белкахотсаюзу неабходна рашуча паставіць пытаньне перад райтаварыствамі аб тэрміновым пераводзе апошнімі ў фонд трусагадоўлі належачых сродкаў, згодна пастановы кустовых нарад ад 6-XI—32 г. Бо да гэтага часу за выключэньнем адзінак, гэтага не зрабіла ні адно з райтаварыстваў.

А.

# Увага маладняку трусаводных гаспадарак

Вясеньні пэрыяд у справе трусагадоўлі зьяўляецца вельмі адказным і патрабуе да сябе ўвагі. У вясну трэба рабіць дэзынфэкцыю клетак і памяшканьняў, трэба палепшыць кармленьне трусоў, падрыхтаваць памяшканьня для злучкі і разьмяшчэньня будучага маладняку. Самая-ж галоўная работа — гэта прасачыць, каб былі злучаны ўсе самкі. Тых самак, якія ня будуць аплоднены ад першай злучкі, зараз-жа злучыць зноў.

Трэба адзначыць, што галоўнае ў пасьпяховым выкананьні вытворчага пляну, гэта колькасьць маладняка і памяншэньне адходу. Чым больш дадуць трусы прыплоду і чым менш будзе з яго адыходу, тым таньней абыдзецца гаспадарцы трус. А калі на працягу 6—7 месяца („працоўны“ пэрыяд самкі) мы ня выкарыстаем усе магчымасьці для скарыстаньня гэтага пэрыяду, дык, зразумела, гэтым самым мы паменшым колькасьць акотаў і прыплод. Гэты пропуск ужо на працягу ўсяго году запоўніць будзе не магчыма, бо ў нашых умовах зімовыя акоты некарысны і недапушчальны.

Такім чынам у веснавы пэрыяд неабходна своечасова і поўнасьцю ўкамплектаваць трусяньнікі племянным матар'ялам. Своечасова правесьці злучку ўсіх самак-трусоў і пасьлядоўныя кантрольныя злучкі праз 7—8 дзён з мэтай адхіленьня прагулаў самак. Своечасова адсадзіць самак у асобныя памяшканьні асобна ад самцоў. Утварыць добры нагляд за кожнай самкай і яе гняздом, а таксама забясьпечыць яе дастатковa ўзмоцненымі кармамі і вадой. У выпадку няўдалага акоту ці згубленьня прыплоду зараз-жа злучыць зноў самку. На ўсякі непрадугледжаны выпадак адабраць запасных карміліц для маладняка.

Добра наладзіўшы дагляд за маладняком і маткай, мы можам больш пакідаць і выгадаваць маладняку, а гэта, у сваю чаргу, дапаможа выканаць промфінплян.

Неабходна, таксама, своечасова падрыхтавацца да гадоўлі маладняка пасьля адлучэньня яго ад матак. Для гэтага неабходна забясьпечыць яго належнай колькасьцю выгулаў. Выгулы, калі ня будзе дошак, можна пабудаваць з лазовых або іншых пруцікаў, плятнём, вышынёй у 1,2—1,5 *м* і ўкапаць яго ў зямлю на 20—30 *см*, абмазаўшы плецень глінай на 30—40 *см*, каб ня было дзірак і ня грызьлі яго трусы. Выгулы трэба зрабіць плошчай 15×2 *м*, з разьлікам на 30—50 галоў маладняку. Для захаваньня ад дажджа маладняка трэба зрабіць „убежище“ з навесам з фанэры і пад ім ставіць ясьлі з сенам і іншым кармом. Навес дастаткова зрабіць разьмерам 2—3 *м* на 1,5 *м*. Ён прыбіваецца да плятня на вышыні 1—1,5 *м* адным бокам, а другім нахільна ставіцца на падножкі на 0,5 *м* ад зямлі. Такі навес трэба рабіць і пасярод выгула, але тады неабходна яго ставіць з такім разьлікам, каб вада мела сток на два бакі. Такія „убежища“ можна рабіць і ў выглядзе „шалаша“ з лапніку елкі.

Ясьлі для сена і травы трэба рабіць зачыненымі зьверху, каб трусы не залазілі туды і не псавалі кармы.

**Сушкевіч.**



На нумарох

# Навука на дапамогу сацыялістычнай рэканструкцыі паляўнічай гаспадаркі

*(Па матар'ялам 1-й Усесаюзнай фауністычнай канфэрэнцыі пры Акадэміі Навук СССР)*

Нядаўна ў Ленінградзе адбылася Ўсесаюзная навуковая канфэрэнцыя зоолёгаў-фауністаў, якая галоўнай сваёй мэтай ставіла ўвязку і ўзгадненьне сваіх дасьледчых прац з запатрабаваньнямі народнай гаспадаркі, і складаньне адзінага пляну працы.

Сярод асноўных разьдзелаў працы канфэрэнцыі— асобнае месца занялі пытаньні, зьвязаныя з вывучэньнем **прамысловых і паляўнічых** зьвяроў і птушак. Рад дакладаў меў непасрэднае дачыненьне і да пытаньняў самой арганізацыі паляўнічай гаспадаркі, таму мы лічым карысным падзяліцца з паляўнічай масай некаторымі найбольш цікавымі матар'яламі і дасягненьнямі канфэрэнцыі.

Перш-за ўсё варта адзначыць, што сама пастаноўка пытаньня аб паляўніцтве, паляўнічай гаспадарцы і аб'ектах паляваньня **на навуковай канфэрэнцыі**—зьяўляецца навіною, і тым большую для нас гэта канфэрэнцыя набывае цікавасьць.

Асноўным дакладам, які закрануў задачы навукі ў галіне сацыялістычнай рэканструкцыі паляўнічай гаспадаркі, быў даклад тав. **Ліванава** (загадчык цэнтральнай паляўніча-прамысловай біолёгічнай станцыі РСФСР). Адзначыўшы відавочнае адставаньне тэмпаў рэканструкцыі паляўнічай гаспадаркі ад агульных тэмпаў сацбудаўніцтва, дакладчык спыніўся на значэньні для паляўнічай гаспадаркі, якое набывае пастанова СТО ад 31-Х 1931 г.



На паляваньні.

Гэтай пастановай пакладзен пачатак перахода да пляннавага вядзеньня паляўнічай гаспадаркі, яе поўнага каапэраваньня і колектывізацыі, тэхнічнай рэканструкцыі, разьвіцьця і ўзбагачэньня вытворчых рэсурсаў. Сацыялістычная рэканструкцыя паляўнічай гаспадаркі патрабуе падвышэньня вытворчых якасьцяй паляўнічых угодзьдзяў, г. зн. большай іх „ураджайнасьці", мэханізацыі процэсаў паляўнічага промыслу,—г. значыць большай экономікі сіл і часу паляўнічага, увядзеньня спосабаў масавага лову—і пры тым такіх, каб даць разам з колькасьцю і якасьць (таварную). Само сабою зразумела, што і пытаньне арганізацыі працы, устанаўленьне тыпаў (спэцыялізацыя) паляўнічай гаспадаркі і навукова-дасьледчая работа цалкам уваходзяць у тую-ж праблему сацыялістычнай рэканструкцыі гаспадаркі.

Тыя веды адносна прамысловых відаў, якіх зараз навука дасягнула яшчэ недастаткова для таго, каб можна была-б адразу вырашыць усе пытаньні, пастаўленыя перад намі задачай сацыялістычнай рэканструкцыі паляўнічай гаспадаркі, і гэта тлумачыцца тым, што да апошняй пары ў нас пытаньні практыкі былі надзвычайна адорваны ад таго, што патрабуе сёньня гэтая гаспадарка. Таму і зараз для апошняй надзвычайна актуальнымі зьяўляюцца: пытаньні, зьвязаныя з вывучэньнем біолёгіі прамысловых і паляўнічых відаў; пытаньні харчаваньня зьвера і птушак; пытаньні распрацоўкі тэхнікі вучота прамысловай фауны; выяўленьне кармавых якасьцяй паляўнічых угодзьдзяў і ўстанаўленьне магчымай нормы засяленьня паляўнічай фаунай на адзінку плошчы ўгодзьдзя; пытаньні акліматызацыі (увядзеньня ў склад мясцовай фауны новых відаў з іншых краін) і рэакліматызацыі (аднаўленьня зьнішчаных у дадзенай мясцовасьці відаў); адшуканьне новых аб'ектаў прамысловага скарыстаньня; распрацоўка спосабаў штучнага разьвядзеньня прамысловых відаў у няволі і пытаньні дзічагадоўлі; вывучэньне хвароб дзікіх жывёл, атрыманьне новых парод прамысловых відаў, мэтадам гібрыдызацыі і селекцыі, і г. д. і г. д.

Пры чым цікава адзначыць, што, гаворачы аб навукова-дасьледчых задачах у галіне вывучэньня прамысловых відаў, галоўная ўвага, па думцы канфэрэнцыі, павінна быць накіравана на вывучэньне ня рэдкіх „драгоценных" відаў, а на віды **масавага здабываньня** (заяц, белка, крот, курапатка, цецярук, качкі і інш.), якія, уласна кажучы, і вырашаюць, напрыклад, пушныя і дзічныя нарыхтоўкі.

У галіне арганізацыйнай высоўваліся: сыстэма арцельных гаспадарак для прамысловых раёнаў і арцёльна-брыгадных — для паласы колгасных гаспадарак, з падразьдзяленьнем іх на „гаспадарча-вытворчы" і „гаспадарча-спартыўны" тыпы (у БССР — па майму проекту — „прамысловы" і „прамыслова-спартыўны" тыпы), прычым не залежна ад тыпа і сыстэмы паляўнічай гаспадаркі, элемэнт **таварнасьці** апошняй—абавязан быць на адным з першых месц.

Пераходзячы да некаторых больш спэцыяльных пытаньняў паляўніцтва, якія выклікалі найбольшыя спрэчкі, неабходна спыніцца, напрыклад, на запатрабаваньні легалізацыі мэтадаў **масавага лова**, якія дагэтуль лічыліся забароненымі. Справа ў тым, што пры няплянавай, анархічнай (капіталістычнай) сыстэме вядзеньня гаспадаркі, у якой кіруе драпежніцкае імкненьне да магчыма большага прыбытку—ужываньне мэтадаў і прылад масавага лова дзічы (сецяў, шатроў, ценётаў, загонаў, шротавых пушак і г. д.) магло прывесьці толькі да шпаркага і поўнага зьнішчэньня многіх каштоўнейшых відаў, таму і забарона гэтых мэтадаў мела сваю рацыю. Пры наяўнасьці-ж плянавай сацыялістычнай паляўнічай гаспадаркі, якая арганізуецца ў Савецкім Саюзе, так званыя мэтады масавага лова становяцца як раз найбольш рацыянальнымі, таму, што карыстаньне імі, як гэта будзе паказана ніжэй, можа і павінна быць пастаўлена, такім чынам, каб садзейнічаць ня толькі найбольш мэтазгоднаму спосабу выкарыстаньня паляўніча-прамысловых рэсурсаў, якія ў нас ёсьць, але і для мэт узбагачэньня ўгодзьдзяў. Прывядзем некалькі прыкладаў, калі ў **арганізаванай гаспадарцы** карысна як раз ужываньне мэтадаў масавага лову. Так, пры жаданьні разьвесьці ў гаспадарцы, напрыклад, такую каштоўную дзічыну, як шэрая **курапатка,** у нашых кліматычных умовах (як я ўжо меў выпадак аб гэтым гаварыць у сваей брашуры аб шэрай курапатцы) нельга абыйсьціся без штогадовага масавага адлову яе рознымі спосабамі (але, зразумела, апроч такіх, якія калечаць, ці забіваюць дзіч) у пачатку зімы і перарымаваньня яе ў прыстасаваным для гэтага памяшканьні. Пры жаданьні ў гаспадарцы найбольш рацыянальна рэгуляваць запас дзічы, напрыклад, калі неабходна выкарыстаць толькі пэўныя катэгорыі стада таго ці іншага віда (напрыклад, узяць толькі самцоў, ці толькі маладых, ці пэўную колькасьць тых і другіх для мэт перасылкі, зооэкспорту, для зоофэрм і г. д.) — мэтоды масавага лова і пры тым лова (г. зн. жыўцом), а не забіваньня—найбольш будуць адпавядаць інтарэсам гаспадаркі і іх неабходна ўводзіць.

З другога боку, у СССР ёсьць аграмадныя запасы зьвярыны яшчэ мала закранутыя і, што горш, ёсьць рад прыкладаў, калі маса пералётнай дзічы, якая ў нас выводзіцца і выкармліваецца — амаль цалкам улятае на зімоўку за мяжу Савецкіх рэспублік і там зьнішчаецца гэтымі-ж самымі спосабамі" „масавага лова". У Францыі, напрыклад, узімку, качак на ўзморы страляюць з асобых гаўбіц-пушак, набітых буйным шротам; у Італіі — масамі ловяць сецямі і петлямі ўсіх пералётных птушак, ня выключаючы і дробных вераб'іных, якія штогод у вялікай колькасьці выкідваюцца там на гарадзкія рынкі. У нас усякі паляўнічы ведае, якая маса качак, напрыклад, штогод бывае на нашых вазёрах, на Дняпры і інш. рэчках у час асеньняга пералёту і якая між тым нязначная частка з гэтай масы дзічы трапляе паляўнічаму са стрэльбай! Пасьля зімоўкі толькі значна разрэджаныя (дзякуючы зьнішчэньню на зімоўках, за мяжою) стадкі водаплаваючай дзічы зноў зьвяртаюцца да нас, каб за лета папоўніць сваe рады ў бясьпечных мясцох бязьмежнай паўночнай тундры.

Мэтад акальцаваньня (мечаньня) птушак, у тым ліку і дзічных відаў, паказаў, што галоўная маса качак з паўночнай і сярэдняй частак РСФСР — ляцяць зімаваць на паўднёвы захад, да берагоў Вялікабрытаніі, Нямеччыны, Францыі, у Балтыскае мора і г. д. Качкі Сібіры—часткова зімуюць на Касьпійскім моры, асабліва ў паўднёвай яго частцы (у даліне Ленкорані і каля берагоў Пэрсыі), часткова ляцяць у Індыю, Кітай, Японію. Між тым, гэтымі нашымі запасамі дзічы, якімі карыстаюцца за мяжою, самі мы ня ўмеем карыстацца. Вось тут—таксама і падыходзяць як раз толькі мэтады масавага лова, якія могуць даць і **колькасьць і якасьць,** што для гаспадарчых мэт, зразумела, вельмі важна, бо можна браць на выбар тое, што і сколькі патрэбна і мэтазгодна. З пралётных відаў асабліва слаба выкарыстоўваюцца ў нас у Савецкім Саюзе) дзікія гусі, якія ў нязьлічнай колькасьці штогод выводзяцца на поўначы.

Таксама амаль не пачата вялізарная маса белай курапаткі (тундраны від), распаўсюджанай скрозь па тундры на працягу многіх тысяч кілёмэтраў ад фінляндзкай мяжы—на захадзе да Берынгава праліва на ўсходзе, г. зн.,—паласе, амаль не заселенай чалавекам. Зразумела, што і тут зусім правільным будзе прыстасаваньне менавіта толькі мэтадаў масавага лова, што адначасова зможа яшчэ больш падвысіць значэньне паляваньня ў агульнай сыстэме сацыялістычнай гаспадаркі.

Таму ў правільна арганізаваных паляўнічых гаспадарках, якія павінны даваць перш за ўсё таварную продукцыю—там, дзе ёсьць невыкарыстаныя



Узяў на мушку.

рэсурсы, — мэтады масавага здабываньня павінны быць ужыты.

У гэтым сэнсе выпраўлены ў нашым проекце новыя правілы паляваньня, якія прадугледжваюць масавы лоў у арганізаваных гаспадарках.

Маючы вытворчы плян і плян пэрспэктыўнага разьвіцьця, кожная гаспадарка павінна ўлічваць, **што і якім мэтадам** больш у дадзеным выпадку мэтазгодна дабываць. Зразумела, аднак, што ні ў аднэй з гаспадарак ня могуць дапасоўвацца мэтады здабываньня, якія псуюць таварную якасьць дзічы ці пушніны. Напрыклад—петлі, сілкі, плашкі, атрута і т. п.

Гэтыя першабытныя спосабы ня знойдуць сябе месца ў культурных гаспадарках, якія павінны цалкам карыстацца дасягненьнямі сучаснай тэхнікі, разгарнуць самі вынаходзтва як у галіне ўдасканаленьня існуючых прылад лова, так і пабудова новых конструкцый.

Перад навуковымі працаўнікамі пастаўлен рад новых і важных пытаньняў ў галіне далейшай рэканструкцыі паляўнічай гаспадаркі. Між іншым важным зьяўляецца пытаньне аб устанаўленьні найбольш рацыянальных тэрмінаў здабываньня таго ці іншага віду ў той ці іншай мясцовасьці яго геаграфічнага арэалю. Пры гэтым неабходна кіравацца выключна гаспадарчай мэтазгоднасьцю з аднаго боку і біолёгічнымі асаблівасьцямі віда з другога (напр., устанаўленьне тэрміну, у які **ў дадзенай мясцовасьці** той ці іншы від зьвярыны дасягае найбольшай вагі, дае найлепшай якасьці мяса, найлепшую пушніну, найбольш сала і г. д.).

Вельмі важнай задачай зьяўляецца, напрыклад, выяўленьне, г. зн. найбольш **„вузкіх месц“** ужыцьці прамысловых відаў (напр., для курапаткі такімі „вузкімі месцамі“ яе жыцьця зьяўляецца глыбокі сьнег, галалёдзіца і т. п.) для таго, каб можна было-б іменна ў гэты момант аказаць адпаведную дапамогу з боку гаспадаркі—таму ці іншаму віду дзічы. Новай задачай у сувязі з больш рацыянальным выкарыстаньнем запасаў боравай дзічы, зьяўляецца адшуканьне спосабаў масавага здабываньня яе не ў канцы лета, альбо ў пачатку восені,—як гэта зараз мае месца (напр., здабываньне рабца увосень—на вабік, глушцоў—на асінах, цецярукоў з сабакаю і на чучала і г. д.), і, дзякуючы чаму, значная частка (мільёны пар) дзічы скора псуецца, не пераносіць транспарту і таму ня мае таварнага значэньня,—а ўзімку, калі дзіч можна замаражваць і перасылаць на любыя адлегласьці.

Вельмі важнай зьяўляецца вывучэньне вядомых у біолёгіі зьявішч, гэтак званых „волн жыцьця“, г. зн. пэрыядычных масавых размножэньняў віда, асабліва ў грызуноў і тых драпежнікаў, якія жывяцца імі.

Адсюль вынікаюць вядомыя прамыслоўцам высокія „ўраджаі“ таго ці іншага віду, напр. белкі, зайца. Масавае ж размнажэньне лемінга (тундравая мыш) выклікае адпаведную „жыцьцёвую хвалю“ пясца, які корміцца лемінгамі. Хвалі ўраджаю белкі, відавочна, зьвязаны з ураджаем шышкі (у нас—яловай, у Сібіры—кедравай).

Задачаю навукі зьяўляецца вывучыць і дакладна дасьледваць гэту пэрыядычнасьць зьяў у прыродзе з тым, каб атрымаць магчымасьць прадракаць наперад той ці іншы магчымы „ураджай“ пушнога зьвера ці дзічы. У сувязі з гэтым, на канфэрэнцыі паўстала пытаньне аб арганізацыі ў Савецкім Саюзе асобных бюро ці „Служба ўраджая“, у задачы якога ўваходзілі-б дасьледваньне як раз упамянёных пытаньняў.

Важнасьць-жа апошніх для плянавай гаспадаркі зусім відавочна. Асобным пытаньнем на канфэрэнцыі зьяўляліся таксама мэтады біовучота і біоздымкі паляўнічых раёнаў у сувязі з паляўнічаупарадкавацельнымі работамі, якія разварачваюцца па ўсяму СССР. І ў гэтай галіне рэканструкцыі паляўнічай гаспадаркі—таксама як і ў вышэй пералічаных, ёсьць над чым папрацаваць і вучонаму спэцыялісту і радавому практыку паляўнічаму, вопыт якога тут, як нідзе лепш, можа быць выкарыстаны. Толькі супольнай дружнай работай саміх паляўнічых, добра ведаючых свой раён, умовы існаваньня прамысловага зьвера і птушак, разам з навуковымі работнікамі біолёгамі і паляўнічазнаўцамі, якіх зараз ужо рыхтуюць нашы ВУЗ'ы і курсы—ўдасца пабудаваць сапраўдную паляўнічую гаспадарку на новай, сацыялістычнай, плянавай, навукова-абгрунтаванай базе.

Проф. **А. У. Фядзюшын.**

---

**Камсамольцы, піянэры, юныя паляўнічыя і натуралістыя, здабывайце хамяка, суськіка, вадзянога пацука—шкоднікаў сельскай гаспадаркі.**

**Адны суськікі і хамякі пядаюць мільёны цэнтнераў зерня.**

**Здабычай іх вы палепшыце свае прыбыткі і сельскую гаспадарку, а за шкуркі іх атрымаеце добры заработак і дасьцё краіне сродкі на пабудову сельска-гаспадарчых машын.**



**Пасткі і капканы атрымаеце ў паляўнічым таварыстве.**

# ГЛУШЭЦ



Глушэц—самая эфэктная і самая буйная паляўнічая птушка нашага лесу. Тое месца, што сярод зьвярэй займае мядзьведзь, сярод птушак належыць, бясспрэчна, глушцу.

Яшчэ зусім нядаўна ў лясох Беларусі было шмат глушцоў і паляўнічы мог утвараць паляваньне на іх амаль круглы год. Глушцовыя „токі" набылі сабе асаблівую „славу" і, бясспрэчна, яны зьяўляліся самым лепшым відам паляваньня ў той час, калі ў нашых лясох было вельмі многа дзічы. Але-ж зараз запас дзічы ў нас відавочна зьменшыўся, у зьвязку з чым асобныя віды яе нам трэба браць зараз пад ахову. Для гэтай мэты нам і неабходна будаваць плянавую паляўнічую гаспадарку,

У сучасны момант у нас забаронен і адстрэл глушца. У прыватнасьці, прычынамі зьмяншэньня гэтай птушкі зьяўляюцца наступныя. Значны лік браканьераў, што без разбору зьнішчаюць усе віды і птушак і зьвера, разбурэньне гнёзд пастухамі, пашырэньне распашак у лясных пасеках—усё гэта адмоўна ўплывае на намнажэньне глушцоў. Да таго-ж глушэц і сам па сабе птушка малапладавітая.

Таму, для таго, каб захаваць гэту птушку і павялічыць яе колькасна, трэба, бязумоўна, на пэўны час забараніць адстрэл яе наогул і на „токах" у асаблівасьці.

У далейшым я лічу патрэбным сказаць некалькі слоў пра гэту птушку ўсё ў тых-жа мэтах павялічэньня колькасьці яе ў нашых лясох.

Глушцы ня ўсе аднолькавы. Яны маюць значную колькасьць падвідаў. Таму неабходна агаварыцца, што ў мяне будзе ісьці гутарка пра глушца, які жыве ў лясох паўночна-заходняй часткі был. Віцебскай губ., што межавала з Апочыцкім уездам Пскоўскай губ.

Як я ўжо адзначыў, глушэц—самая буйная птушка ў нашых лясох. Але якая вага глушца наогул—пэўна сказаць затрудняюся. Зазначу толькі, што звычайна гэта вага ад 3,5 *кгр* даходзіць да 7,5 (у большасьці). У рэдкіх выпадках ён важыць 8 *кгр* [1]) Пра колер пер'яў глушца гаварыць проста ня трэба, бо ён добра вядом кожнаму паляўнічаму.

Глушцы пачынаюць гнездаваньне ў сярэдзіне красавіка. Яны робяць гнёзды заўсёды ў найбольш глухіх частках лесу. Гнёзды нагадваюць сабою невялікую ямку, што робіцца з моху і засьцілаецца пер'ямі ўнутры. Самкі кладуць 6—8 яек (вельмі рэдка 9), якія падобны да цецяруковых (крыху больш за іх). Наседжваньне працягваецца да 4-х тыдняў. Адразу-ж па выхадзе з яйкаў малыя глушцы пачынаюць бегаць з пачатку разам з маткаю, а пасьля пачынаюць жыць самастойна. Вывадак глушца ў 8—9 штук птушанят—вельмі рэдкая зьява. У большасьці бывае 5—6. Бо справа ў тым, што пры высіджваньні адно ці два яйкі псуюцца відавочна ад неаднолькавага награваньня. Вывадкі ўтвараюцца звычайна ў канцы мая. З пачатку малыя птушаняты растуць надта павольна, на іх вельмі адмоўна ўплывае вільготнае надвор'е і асабліва халодная раса і дождж. Але пазьней рост ідзе надта хутка. Вывадкі глушцоў узьнімаюцца, як усе курыныя, вельмі рана і к 1 жніўня яны ўжо добра лятаюць, а маладыя самцы прымаюць сваю нармальную афарбоўку.

Старыя і наогул дарослыя глушцы з пачатку „тока" трымаюцца ў гушчары лесу. У палове чэрвеня яны пачынаюць ліняць і трымаюцца ўсё ў тых жа гушчарох і звычайна вельмі блізка падпушчаюць да сабе чалавека, але вельмі хутка ўзьнімаюцца і тым самым надта часта ўнікаюць стрэлу. Іх лінька сканчваецца ў канцы жніўня. Самцы пачынаюць прымаць новую афарбоўку з канца чэрвеня і канчаюць у канцы верасьня.

Вывадкі глушцоў, як і цецярукоў, трымаюцца аднаго месца. У гарачы час дня вывадак трымаецца ў лясным гушчары ў цяні і ў густой траве. У час дажджу ён выбірае сухія месцы. У сухі час вывадак любіць капацца ў пылі ў пяску, у зале, у былых мурavейніках, пакідаючы тут сьляды лап, памёта і пер'яў. Убачыўшы гэтыя адзнакі, вы можаце быць упэўнены, што вывадак дзесьці недалёка ад вас. Тады вам трэба вызначыць толькі, прыняўшы пад увагу час дня ці надвор'я, дзе менавіта ён знаходзіцца. Лепш за ўсё знайсьці яго раніцаю па сьлядох на траве, пакрытай расою.

Нашы паляўнічыя маюць звычай біць заўсёды матку, не разумеючы таго, што гэтым самым яны губляюць без карысьці ўвесь вывадак. Таму апошняе неабходна асабліва памятаць кожнаму паляўнічаму, у дачыненьні да цецярукоў і глушцоў. Сур'ёзны паляўнічы ніколі не павінен дазволіць сабе страляць матку, напаткаўшы вывадак. Разагнаны вывадак сядзіць, звычайна, ціха і дрэнна агукаецца на сапраўдны голас маткі, што ў значнай ступені захоўвае яго ад браканьераў.

---

[1]) Вага глушца, бязумоўна, не дасягае тых лічбаў, якія прыводзіць аўтар. Вядомы орнітолёг Цэдлітц правёў спэцыяльную працу па вывучэньні вагі глушцоў з розных мясцовасьцяй Эўропы, між іншым і з прыбалтыцкіх краін (г. зн. сумежных тым, аб якіх піша т. Лялін), пры чым досьледы яго, угрунтованыя па вывучэньні вагі каля 2000 глушцоў, паказалі, што найбольшай вагі дасягалі глушцы з Нямеччыны (Ніжн. Памеранія), а менавіта каля 5,5 *кгр* у сярэднім і найбольшая вага іх была ўсяго 6,5 *кгр*. Праф. Лонберг для швэцкіх глушцоў максымальную вагу падае ў 4,30 *кгр* і толькі адзіны экзэмпляр з сярэдняй Швэцыі, забіты па спэцыяльнаму дазволу для выстаўкі ў Дз. Музэі, дасягаў 4,33 *кгр*.

Па даных праф. Фядзюшына глушцы з БССР (у канцы тока) важылі ад 4,22 *кгр* да 4,70 *кгр* (19 штук), а значыць увосень—ня больш 5,6 *кгр*. Паўночныя і ўсходнія глушцы—важаць яшчэ менш.

**Рэдакцыя.**

## Жыцьцё глушца зімою

У зімовы час глушцы ня зьбіраюцца такімі вялікімі групамі, як цецярукі. Глушэц наогул птушка не кампанейская. Ён трымаецца больш у адзінку ці невялікімі групамі ў яловых гушчарох. Глухія раўкі, не замерзлыя рэчкі і крыніцы—лепшыя месцы для глушцоў зімою.

Жыцьцё глушца зімою надта аднастайна. Неразнастайна і страва яго ў зімовы час. Калі ўлетку ён знаходзіў сабе разнастайную страву, ужываючы розныя ягады, а ўвосень—асінавыя лісты, дык зімою ён ужывае маладыя галінкі хвойных дрэў [1]), асабліва піхты, у піхтавых лясох. Часам глушцы, як і цецярукі, закапваюцца ў сьнег і начуюць у „лунках“. Глушцовыя лункі звычайна раскіданы ў лясных гушчарох і не заўсёды лёгка знойдзеш іх.

Калі лункі зьяўляюцца лепшым пристанішчам глушца ў зімовыя марозныя ночы, дык у той жа час яны вельмі часта зьяўляюцца і лавушкамі: бо ў іх глушца вельмі часта застае ліціца.

Калі зіма набліжаецца к канцу, усё больш і больш можна бачыць на сьнягу сьляды глушцоў, а таксама і саміх іх сідзячымі на дрэвах. Пакрыху яны пачынаюць аддаляцца ад тых месц, дзе зімавалі ў напрамку да месца веснавых „токаў“. Такі пераход яны робяць у большасьці пехатой. (? Рэд.).

**Ф. А. Лялін.**

*(Працяг у наступным нумары)*

[1]) У БССР узімку глушцы пераважна жывяцца хвояй. *Рэд.*

**Лісты з таварыстваў**

## Капыльскае таварыства падцягнулася

У № 1 „П. Б.“ за гэты год была зьмешчана заметка аб дрэннай працы Капыльскага таварыства паляўнічых. Зараз т-ва падцягнулася і ў некаторых галінах працы ёсьць значныя дасягненьні. Хаця наш раён і не асабліва багат фаунай, тым ня менш за 4 квартал 1931 году таварыства нарыхтавала на 1340 рублёў, чым значна перавыканала плян. Наладжана і забясьпечаньне паляўнічых боепрыладамі, за выключэньнем дэфіцытных тавараў. Бываюць выпадакі недастатковага завозу шроту, але і гэта зжываецца.

Ажывілася крытыка і самакрытыка. Добра праведзена кантрактацыя пушмехсыравіны і інш. Браканьерства ў раёне амаль зьнішчана. У гэтым годзе была дазволена да адстрэлу вавёрка. Вавёркі ў нашым раёне мала і паляўнічыя дабіваліся забароны яе адстрэлу.

Праўленьне за нарыхтоўку пушніны прэміравана аднэй стрэльбай і футлярам.

Маюцца ў рабоце праўленьня і прарывы. Так, напрыклад, культмасавая праца вядзецца слаба. На мабілізацыю фондаў і рэалізацыю пазык ня зьвернута належнай увагі.

Члены праўленьня амаль усе працуюць па сумяшчальнасьці; гэта таксама дрэнна адбіваецца на ўсёй працы таварыства.

Ня гледзячы на тое, што т-ва аб'яднае 374 чалавек паляўнічых і мае даволі вялікі зварот, апрача таго займаецца рознымі нарыхтоўкамі, раённыя, партыйныя і савецкія арганізацыі не зьвяртаюць увагі на работу т-ва і не дапамагаюць яму. Гэта таксама дрэнна адбіваецца на рабоце.

**Я. М. Р.**

## У Бешанковіцкім таварыстве пануе абязьлічка

Пры ліквідацыі Вульскае таварыства перадала Бешанковіцкаму ўсе свае каштоўнасьці. Разам з гэтым і пасевы—бульбы, аўса, канюшыны, якія прызначаліся для кармленьня трусоў. Апрача таго былі пераданы і грошы.

Ураджай пасеваў быў добры. Асабліва добры ўраджай быў аўса і канюшыны. Але калі іх скасілі, дык невядома дзе дзеўся ўраджай. Нідзе няма аб іх прыходзе зьвестак. Таксама ня ведаюць аб гэтым ні члены праўленьня ні рэўкамісія.

Было выкапана каля 1 *га* бульбы. Дагляду за капаньнем бульбы ня было. Яе складі недзе ў полі і... яна, таксама, як і канюшына, невядома дзе дзелася. Зацікавілася гэтай справай РСІ, якая высьветліла, што каля 5 тон бульбы было ўзята вульскімі начальнікамі па 40, 60, 80 пудоў, каля паўтоны было раздадзена беднаце, а апошняй часткай „пакарыстаўся“ вартаўнік.

Грошы, вядома, ніхто не плаціў і толькі тады, калі справай зацікавілася РСІ, частка грошай аказалася ў банку на рахунку Бешанковіцкага т-ва.

З ураджаем іншых культур—авёс і г. д., таксама справа цёмная.

Невядома дзе дзелася 10 тон гэтага ўраджаю.

Зараз гэтая справа накіроўваецца сьледчым органам для прыцягненьня вінаватых да адказнасьці. Але гэтага мала, бо ўсе гэтыя прадукты былі прызначаны для кармленьня трусоў. Зараз недахоп гэтых прадуктаў і Бешанковіцкаму т-ву прыдзецца купляць і бульбу і ўсё іншае для насеньня.

**Б. С.**

---

## ПАПРАЎКА

У № 1 „Паляўнічы Беларусі“ Аршанскае таварыства паляўнічых памылкова занесена на чорную дошку, як ня выканаўшае нібыта плянаў пушных загатовак.

*Аршанскае т-ва* **выканала плян на 160 проц. і прэміявана,** *як ударнае ў гэтай рабоце, але Белкахотсаюзу ня былі своечасова дадзены зьвесткі аб гэтым, з прычыны чаго і атрымалася памылка.*

*Аршанскае т-ва замест чорнай дошкі заносіцца на чырвоную.*

**Рэд.**

## Сваячасова падрыхтавацца да вясны

Падыходзіць час будаўніцтва ў трусагадоўлі, засеву вучасткаў кармамі для трусоў, а паляўнічая каапэрацыя да гэтага яшчэ не падрыхтавалася. Мэтавы фонд па трусагадоўлі раённыя т-вы Белкахотсаюзу не высылаюць.

Некаторыя т-вы маюць вялізарныя сумы грошай, трымаюць іх у банку, а ў Белкахотсаюзе няма сродкаў крэдытаваць іншыя т-вы за кошт мэтавага фонду трусагадоўлі.

Такім чынам ствараецца становішча, якое не дае магчымасьці сваячасова разгарнуць будаўніцтва трусагадоўлі і сэзон можа быць ня выкарыстан, што павядзе да зрыву пляну разьвіцьця трусагадоўлі ў 1932 г. і пакіне трусоў на зіму зноў без кармоў.

Белкахотсаюз павінен прыняць тэрміновыя меры для сысканьня фонду трусагадоўлі, разьмеркаваць яго і крэдытаваць будаўніцтва. Усе вучасткі трусаводных гаспадарак павінны быць сваячасова засеены адпаведнымі кармамі.

**Трусавод.**

## Укамплектаваньне трусятнікаў праходзіць марудна

Першыя зьвесткі аб укамплектаваньні асноўнага стада атрыманы ад трусятніка **Сіроцінскага** таварыства. Гэтае т-ва першае выканала заданьне па давядзеньні колькасьці трусоў да плянавага заданьня. Яно таксама ідзе першым і ў справе закупкі трусоў для іншых т-ваў, а таксама здачы трусоў на мяса. Але ў апошніх двух галінах працы яно яшчэ далёка да выкананьня заданьня.

Кепская справа з іншымі т-вамі, хаця і тут некаторыя падыйшлі да выкананьня пляну, так, напрыклад, **Петрыкаўскае, Віцебскае, Пухавіцкае Гарадоцкае, Полацкае, Барысаўскае, Гомельскае, Рагачоўскае, Лепельскае і Лёзьненскае.** Праўда, ад іх вельмі цяжка атрымаць зьвесткі, але тое, што ў нас ёсьць, гаворыць, што ў гэтых таварыствах ёсьць ужо дасягненьні.

Ад іншых т-ваў зусім няма зьвестак, як у іх ідзе разьвіцьцё трусагадоўлі і ўкамплектаваньне трусятнікаў. Асабліва ўпарта маўчаць аб разьвіцьці трусагадоўлі наступныя т-вы: **Веткаўскае, Ельскае і Талачынскае.**

Яшчэ ў кастрычніку яны атрымалі заданьне і да гэтага часу ні слуху ні духу.

Гэта ставіць у дрэннае становішча Белкахотсаюз, які, ня маючы зьвестак, ня можа прыняць адпаведныя тэрміновыя меры па разьвіцьці трусагадоўлі.

**Б. С.**

## Браканьерамі забіт мядзьведзь

У сьнежні мінулага году ў Дабрамысьлянскай паляўнічай гаспадарцы зьявіўся мядзьведзь. Праз некаторы час быў знойдзен труп гэтага мядзьведзя. Дазнаньнем устаноўлена, што мядзьведзь паў ад параненьня почак і кішак з агнястрэльнага аружжа. Мядзьведзь аказаўся самкай, вагай 48 кілё. Зараз каля гэтай гаспадаркі ёсьць яшчэ 3—4 мядзьведзі.

Раённыя т-вы і ячэйкі паляўнічых павінны ўзмацніць ахову паляўнічай фауны, павінны змагацца з браканьерствам.

Трэба дабіцца дапамогі ў гэтым напрамку і ад савецкіх арганізацый, як міліцыя і інш.

**Ведаючы.**

## Паранілі ды ня ўзялі

Каля в. Карсачынай у зімні сэзон было шмат ваўкоў. Паляўнічыя Адамаўскай і Несялоўскай ячэйкі арганізавалі аблаву. Ваўкі былі абкладзены сьцяжкамі і можна было чакаць добрых вынікаў ад аблавы. Але з прычыны няўмелага вядзеньня самога працэсу аблавы, два ваўкі былі падстрэлены ды ня ўзяты. Можна было-б назаўтра зноў абкласьці ваўкоў, але не знайшлося паляўнічых, якія-б заняліся гэтым.

**Паляўнічы.**

## Уняць хулігана

Паляўнічы **Кірушкін Базыль,** член Касьцюковіцкай ячэйкі паляўнічых, напіваецца часьцяком п'яны. У час перавыбарчага сходу ячэйкі ён зьявіўся на сход са стрэльбай у п'яным выглядзе і пачаў буяніць, пагражаючы стрэльбай.

Такія „нумары“ **Кірушкін** выкідвае часьцяком. Касьцюковіцкае т-ва паляўнічых павінна выкінуць яго з сваёй арганізацыі.

**Міхась.**

## Культпрацы не вядзецца

Парыцкае раённае таварыства паляўнічых зусім не разгарнула ў гэтым годзе культработы. Нават падпіска на часопіс „Паляўнічы Беларусі“ сарвана. Паляўнічых ёсьць у раёне больш за 200 чалавек, а падпіскі дана гэтым таварыствам усяго 34 падпісчыкі. Пры такой рабоце будаваць паляўнічую гаспадарку і выконваць тыя задачы, якія зараз стаяць перад паляўнічай каапэрацыяй, немагчыма.

Трэба разгарнуць культработу

**П-ра.**



## Лепш аднесіцца да „сабачай справы“

Ні ў аднэй галіне паляўнічай гаспадаркі няма такога адставаньня, як у сабакагадоўлі. Як відаць, некаторыя прытрымліваюцца той думкі, што „сабачая справа“ можа сама разьвіцца ў сабакагадоўлю. Інакш тлумачыць гэта ніяк нельга, бо ў нас ёсьць усе магчымасьці, каб кіраваць, разьвіваць, папулярызаваць у паляўнічай масе сабакагадоўлю, заводзкага паляўнічага сабаку.

Аднымі з першых гэтых магчымасьцяй, я лічу—паляўнічы друк, выстаўкі і спробы паляўнічых сабак. Ёсьць і ў нас, у БССР і ў СССР, спэцыялістыя па гэтай справе. Але няма самага малага і, між іншым, хаця гэта і парадак, самага галоўнага. Менавіта. Няма ў нас пры раённых таварыствах сэкцый сабакагадоўлі, а калі і ёсьць, дык ад іх нясе мерцьвячынай, няжыцьцёвасьцю.

Такім чынам утвараецца такое становішча, што заводзкаму паляўнічаму сабаку ўсіх парод пагражае сьмерць! Інакш становішча характарызаваць і нельга, бо тыя заводзкія сабакі, якія яшчэ дзе ні дзе захаваліся ў асобных паляўнічых, урэшце могуць вырадзіцца, зьмяшацца з дварнягамі. Паляўнічы сабака ў нас зараз існуе на правох усім вядомага тургенеўскага „Валеткі Ермолая“.

І ўсю гэтую мерцьвячыну трэба аднесьці выключна да арганізатарскіх здольнасьцяй праўленьняў раённых таварыстваў. Ужо ня раз мы ў часопісі „П. Б.“ завастралі думку паляўнічых і кіруючых органаў на гэтым пытаньні і вызначалі і тыя шляхі, якімі, па нашай думцы, павінна пайсьці сабакагадоўля ў нашай кааперацыі, таму зараз мы аб гэтым гаварыць ня будзем. Мы толькі скажам, што цэнтральнае праўленьне Белкахотсаюзу павінна заняцца гэтай справай, дэталёва вывучыць яе і даць ход. Бо ў нас усё-ж такі яшчэ ёсьць заводзкія сабакі і пры належным правільным натуральным падборы, можна было-б ня толькі захаваць іх, але і разьвіць сабакагадоўлю. Для гэтага неабходна, апрача сказанага, утвараць часьцей вывадкі, выстаўкі і палявыя спробы і дапамагаць матар'яльна сабакаводам.

М. Стрыгуцкі.



Вучыся добра ўладаць тэхнікай страляньня.

**Веснавое паляваньне ў БССР у гэтым годзе дазволена на качура (селезьня) выключна на вобік і на слонку—на цяге.**

**Тэрмін паляваньня з 25 красавіка па 15 мая.**

# ЗІМОВЫЯ НАБЕГІ

*(Апавяданьне)*

I

Зіма была лёгкая і сьнегу амаль ня было. Але ў пачатку лютага загуляла мяцеліца. Выпаў сьнег. Зарыпеў мароз.

— Во калі пачалася зіма! — гаварылі людзі. — А ты кажаш!? Яна сваё возьме.

Калгасьнікі ўзяліся за лесазагатоўкі; пацягнуліся да рэчак абозы з бярвеньнем. Нават зьвяры—і тыя пачалі часьцей зьяўляцца каля будоўлі чалавека, асабліва ўначы, пакідаючы на белым сьнезе ланцужкі сьлядоў. Ліс сьмялей зашныраў па кустох ды садох, каб знайсьці сабе спажыву. Надаедлівы касавокі шарак пачаў шкодзіць садам, абгрызаючы кару яблынь.

Быў вечар. У некаторых хатах калгасу „Чырвонь" блішчэў аганёк. Нейдзя скрыпнулі вароты і на вуліцу выйшаў высокі чалавек. Цьвёрдымі крокамі ён падышоў да вялікае хаты ў канцы вуліцы калгасу з белымі вакенцамі, на рамах якіх яшчэ не абсохла фарба і, пастукаўшы ботамі аб новы ганак, каб адбіць прымерзлы сьнег, увайшоў у хату.

Мільгануў сьвет сярнічкі і ў хаце зрабілася сьветла. Чалавек падыйшоў да печкі, памацаў яе рукой — ці халодная, потым узяў венік, вышаў у сенцы і зьмёў з ботаў сьнег. Вярнуўшыся ў хату і скінуўшы кажух, ён паправіў рукой валасы, якія лезьлі на вочы і сеў за стол. Зараз быў відаць увесь яго твар.

Гэта быў малады, гадоў дваццаць пяць, чалавек з прадаўгаватым тварам, доўгім і роўным, вострым на канцы, носам. Высокім чатырохкутнікам лоб яго сьведчыў аб упартасьці яго характару. Чалавек гэты быў калгасьнік Прахор Мікуліч. Адначасна ён кіраваў і паляўнічай ячэйкай калгасу. Жаўтаватыя валасы яго зноў зьвісьлі яму над вачыма. Прахор паправіў іх і пачаў глядзець сіняватымі вачмі на лямпу.

— А пароша добрая заўтра будзе. Відаць сьнег ужо ня будзе падаць і вецер перастае. Добра было б заўтра скакнуць ды шарачка стукнуць. Добра! І пара як раз такая, што пушніну трэба здаваць, і прэмію можна было-б атрымаць. Так, так! А вось плянаў дык выканаць няма яшчэ чым. Як тут быць?! — думаў Прахор. — Трэба, брат, на паляваньне хадзіць, а то бяда будзе з гэтай пушнінай, з гэтымі плянамі. Ну, зьбяруцца хлопцы — пагаворым,—рашыў ён і палез за махоркай і сярнічкамі ў кішэню.

Толькі ён скруціў папяросу, як пачуў, што нехта ідзе. Потым дзьверы адчыніліся, і ў хату, разам з клубкамі туману, які пакаціўся па падлозе, увайшлі два чалавекі. Зьмёўшы венікам сьнег з вопраткі, абцёршы твар рукавом і паадрываўшы сусулькі лёду з вусоў, адзін з іх загаварыў:

— Добры вечар, Прахор! Ты даўно ўжо тут?

— Добры вечар! — адказаў, на прывітаньне Прахор.—Не, толькі прышоў.

— Ну, начальніку і трэба раней прыходзіць, — заўважыў другі, сьмяючыся і паглядаючы ў вочы Прахору.—То, брат, ня мы з табой—нейкія члены! То, брат, старшыня, галава, так сказаць, паляўнічай ячэйкі калгасу „Чырвань", у якой налічваецца цэлых дваццаць чалавек паляўнічых.

Пагаварылі яшчэ аб чым-сім і ўсе селі за стол. Адзін з іх быў чалавек малога росту, але даволі поўны з чорнымі валасамі і такімі-ж вачмі, курносы, з нявыгаленай барадой. Гэтага звалі Цімохам Бульбянікам. Другі такі самы высокі, як і Прахор Мікуліч і белабрысы, з жаўтаватымі валасамі. Твар яго быў чырвоны, здаровы, з вясёлымі, шэрымі вачмі. Звалі яго Мікіта Мікуліч.

— Ну, дык што там у цябе ёсьць? — запытаўся Мікіта ў Прахора.

— Давай! пачнем!—дадаў Бульбянік Цімох.

— У мяне тры пытаньні—сказаў Прахор.—Першае — гэта кантрактацыя пушніны ад паляўнічых; другое — выкананьне плянаў пушніны і трэцяе—работа ячэйкі паляўнічых нашага калгасу па наладжаньню паляўнічай справы. Вось гэта павестка дня. Потым мы яе паставім на агульным сходзе.

Трэба першыя два пытаньні—кантрактацыю пушніны і выкананьне плянаў—злучыць у адно,—дадаў Мікіта.

— Не пярэчу,—адказаў Прахор.

— Я таксама,—згадзіўся Цімох.

— Ну, дык пачынаем, — загадаў Прахор. Плян пушных загатовак, як вы ведаеце, ня выкананы, а зіма канчаецца. З аднаго боку—тут меў уплыў стары спосаб працы, ня былі заключаны дагаворы з паляўнічымі, паляўнічыя ня займаліся паляваньнем, а калі і займаліся, дык пушніну здавалі не ў кааперацыю, а другое, — ня было добрага надвор'я. Я мяркую, што трэба поўнасьцю, правесьці кантрактацыю, заключыць дагаворы з кожным паляўнічым, і, на падставе закону, дамагчыся, каб паляўнічыя былі аслабанены ад іншых абавязкаў, тым больш, што і асаблівай такой работы няма зараз...

— Так, так!—сказаў Цімох.—Раней надвор'е, як ты кажаш, пярэчыла, а зараз людзі будуць пярэчыць. Трэба прасіць, каб паменшылі заданьне на нашу ячэйку. Усё роўна мы ня выканаем яго.

— Не, гэтага нельга рабіць,—адказаў Прахор.—Заданьне і так невялікае. Па дагаворах паляўнічыя будуць атрымліваць прэмію рознымі таварамі і заданьне мы ня толькі выканаем, але і перавыканаем. Трэба толькі! ўмець наладзіць работу.

— Але-ж трэба раней зьвяроў настраляць, — не згадзіўся Цімох.

— Гэтага ніхто не адмаўляе, але калі мы не пачнем страляць, дык і не настраляем. Заяц табе на мушку сам ня сядзе,—адказаў Мікіта.

— Верна! — згадзіўся Прахор. — Дык вось, калі раней было дрэннае надвор'е, дык зараз трэба выкарыстаць усе магчымасьці.

Пасьля некаторых спрэчак прышлі да заключэньня, што зараз-жа трэба сабраць паляўнічых, заключыць з імі кантрактацыйныя дагавары і арганізаваць паляваньне, увязаўшы гэтае пытаньне

з праўленьнем калгасу, аб чым ёсьць пэўны закон. Заданьне прызналі ўсё-ж такі невялікім. Пасьля Мікіта сказаў:

— Адзін Ігнат Коцік (так звалі старога паляўнічага, калгасьніка Ігната Малога) забівае зайцоў амаль столькі-ж, колькі мы павінны здаць усёй ячэйкай.

— Але ідзі арганізуй яго!—прамовіў Цімох Бульбянік.—Ён ніводнай шкуркі ня здаў ні летась, ні сёлета, а ты кажам:—„набівае зайцоў".

— Дарэчы,—адазваўся Мікіта,—на самай справе' што нам рабіць з гэтым Коцікам? Што ён зайцоў б'е шмат, дык гэта праўда, але праўда і тое, што некуды шкуркі збывае на бок! Вось, ужо, Коцік, дык Коцік! Сапраўдны кот!

— Што рабіць?! — узгарачыўся Цімох. — Або з саюзу выключыць, або шроту і пораху не даваць. Ды і наогул ён дрэнна сябе вядзе ў калгасе: абы толькі выпадак, дык і змыўся з стрэльбай ці вудай, або на сваём гародзе працуе. А хлапец працавіты, любіць працаваць, нечага гаварыць...

— Ну, выключаць нельга — запратэставаў Прахор. — Па-першае, ён і шрот дастане і тады зусім нічога з ім ня зробіш.

— Ну, дык набоеў не даваць,—настайваў Цімох.

— І гэта ня зусім добра. Ня ў гэтым наша справа, каб выключаць або набоеў ня даць, — растлумачыў Прахор, — а ў тым, каб дабіцца посьпехаў. Зараз ён хоць не браканьер, а тады... прапала.. Вы ведаеце, што ён раней рабіў? Аб'езчык ня даў яму білета на права паляваньня, дык той пайшоў у лес у той самы дзень, калі прыехаў лясьнічы і забіў лося. Забіў і кінуў яго там, каб аб'езчыку насаліць. Ну, тут-жа нядоўга, каб усе аб гэтым ведалі. Даведаўся і лясьнічы. І што ж, вы думаеце? Гэтага аб'езчыка зараз-жа з пасады далоў, а Ігната колькі ня браў ураднік, нічога не дабіўся ад яго. Толькі тады ён аб гэтым расказаў, калі ўжо і ўраднікаў ня было. Я, вядома, не кажу гэта к таму, што мы павінны даваць волю браканьеру, але Коцік паляўнічы добры, законы ўсе саблюдае, і наогул... А што шкуркі некуды прадае, у гэтым наша віна, бо мы ад яго і ня вельмі патрабавалі. Выключыць—ніякай карысьці! Але хопіць аб гэтым! Я сам да яго зайду і пагавару сёньня. Пяройдзем да наступнага пытаньня.

— От што нам рабіць з зайцамі? — пачаў гаварыць Цімох.—Учора я быў у садзе, зайцы пагрызьлі шмат дрэў. Сад малады і яны яго псуюць. Гэта таксама адносіцца да будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі. Старшыня калгасу лаіць нас за гэта і гаворыць:—„Усіх зайцоў вашых перавяду, як пастаўлю пад кожным дрэвам" жалезы" *).

— Што старшыня гаворыць, гэта ня наша справа,—адказаў Прахор.

— Ён за свае справы будзе адказваць. А што зайцы сад псуюць, гэта вельмі дрэнна.

— То-то, дрэнна!—усьміхнуўся Цімох. — Зайцоў няма—дрэнна, зайцоў шмат—дрэнна.

— Хто табе сказаў, — у сваю чаргу ўсьміхнуўся Мікіта.

— А як-жа? Сад псуюць,—супярэчыў Цімох. — А я, дык ані не пярэчыў-бы наконт жалез і сам нават паставіў-бы і зашыў-бы якога касавокага. Што там глядзець!

— Ну, і паляўнічы з цябе! — адказаў зьдзіўлена, у злосьці Прахор. Зайцоў лавіць жалезамі, у...

— Што-ж з імі, калі сад.. грызуць!—з замінкай адказаў Цімох.

— Ды і разьвялося іх...

— Які-ж з цябе калгасьнік тады? — гэта па-першае, а па другое — зайцоў трэба яшчэ больш нагадваць—нам карысьць ад гэтага, — адказаў зноў Мікіта.

— Ну, дык хай сад калгасны пераводзяць! — злосна крыкнуў Цімох, заблішчэўшы чорнымі вачыма.—Летась насадзілі, а сёлета рашым яго.

— Чаго так рашым?—зьдзівіўся Прахор.—З такім гаспадаром і паляўнічым, як ты, Цімох, дык і сад і паляўнічую справу можна рашыць. Што-ж тут дзіўнага, калі зайцы ў сад ідуць? Галодныя, дык і ідуць. А ты, калі гаспадар добры, вазьмі ды ня пусьці..

Прахор і Мікіта зарагаталі.

— Што я зайцаў пастух! — у злосьці, з зачырванелым тварам, выпаліў Цімох.—Хай яны падохнуць твае зайцы! Паспрабуйка ты! Ты-ж іх начальнік,—адказаў ён Прахору.—Ха-ха-ха—Прахор зусім спакойна загаварыў.

— І адганю. А вось ты, дык ні то, ні сё: і зайцоў зьнішчыць і сад зьнішчыць. Паставім, кажа, пасткі! Гэта значыць зайцы, як хадзілі, хай так і ходзяць у сад і грызуць, псуюць, пакуль у жалезы не пападуць. Гаспадар, называецца... Як ты думаеш, Мікіта?

— Вядома, што-ж тут спрачацца?

— Вось што трэба зрабіць, па майму,—працягваў гаварыць Прахор. — Трэба падкармліваць зайцоў. Сыты ня пойдзе яблынькі грызьці—гэта раз, а падругое — такім чынам мы і самім зайцам гэтым самым дапаможам, а каштаваць будзе дробязь... Ды і зайцоў з ваколіцы прыцягнем да сябе.

Цімох трохі супакоіўся і ўважліва слухаў Прахора. Пры апошніх словах вочы яго заблішчэлі ад радасьці. У гэтых словах ён пачуў нешта прыемнае для сябе. Будучы паляўнічым, асабліва стральцом, вельмі дрэнным ён думаў: „От тут, дык я ўжо пажывлюся! Тут, ужо, па сядзеўшаму, не прамахнуся, ня то, што з падрыву. Прыду сабе ўначы, сяду і буду пільнаваць, пакуль заяц прыдзе на прынаду". Але Прахор папярэдзіў яго.

— Такая мера будзе самая гаспадарская, але толькі каля калгасу зайцоў не страляць — гэта небясьпечна для насельніцтва.

— Калі рабіць падкормку, дык трэба хутка. Бо за адну ноч яны чорт ведае колькі дрэў сапсуюць,—перабіў Мікіта, паглядзеўшы на Прахора і Цімоха.

— Трэба сёньня рабіць, а то, праўда, яны за ноч чорт ведае, што ў садзе натвораць, — сказаў Прахор. — Зараз яшчэ ня позна. Хадзіць таксама не далёка. Ты, Мікіта,—і ты, Цімох, таксама,—вазьмеце некалькі неабмалочаных снапоў аўса і растаўце іх у дзірках плоту каля саду. Ну, так! Значыць і з гэтым пытаньнем пакончылі,—скончыў сваю гутарку Прахор.

(*Працяг у наступным нумары*).

---

*) Асобнага роду пастка, якая робіцца з двух жалезных абручоў.

# БАЛЬШАВІЦКАЯ ПЕРАКЛІЧКА

## Т. Кляшторны

Таварыш сонца,
За вясной
Занадта хутка
Лета едзе.
Даволі спаць
Зімовым сном
Пад хутрай
Белага мядзьведзя!
Будзі палі
Будзі лясы!
Паклаўшы
Першую аснову,
Умыйся
Водарам расы
І цёплым
Дожджыкам вясновым
З паўночнай сьцюжай
Не сябруй,
І не марнуй
Дарэмна часу!
Ты
Ў бальшавіцкую сяўбу
Па бальшавіцку
Уключайся.
На пагулянкі—
Выбачай!
Работаць будзеш ты
Да поту.
Давай
Дамовімся пачаць
З табой мы
Дружную работу.
Ня будзеш, сонца,
Туманы
У нас ты
Пасьвіць да абеду,
Пасьля
На чарку і бліны
У сад
Ня пойдзеш
Да суседа.
Не задзівуешся,
Як сын
Аднаасобніка Рыгора
Панёс у кузьню
Лемяшы,
А трапіў неяк
Да Прахора.
А сам Рыгор
У гэты час,
Саху
Падпёршы паясьніцай,
Павольна сьніць
Пра хлеб і квас,
Яго кабыле
Сена сьніцца.
Мы ж тым Рыгорам
Не сябры,
Што парасьлі
Балотнай цінай.
Для бальшавіцкае
Сяўбы
Такія тэмпы
Не ўласьцівы.
Для нас
Адлегласьці туман
Не затуманіць
Наша раньне.
Мы
Перагналі нават плян
Сваіх
Ранейшых меркаваньняў.
Расьце па пляну
Наш Саюз.
Мы ўсё прадбачым,
Ўсё улічым...
Ці чуеш, сонца,
Дужы пульс
Вясновай
Нашай пераклічкі?

**Трактарабуды:**

— Не паслабляем
Ход работ:
Дае ў час,
Дае бяз браку
Наш
Кожны трактарны завод
Праз пяць хвілін
Гатовы трактар

**Завод камбайнаў:**

— Каб больш машын
Калгасам даць,
Каб у сяўбу
Уключыцца дбайна,
Дык вашы тэмпы
Перагнаць
Дакляраваў
Завод камбайнаў.

**Бакінская нафта:**

— Баку
Таксама не прасьпіць!
Паклаўшы
Тэмпы у аснову,
Напоіць
З нафтавых крыніц
За працай
Волатаў сталёвых.

**Данбас:**

— Данбас
Для транспарту у час
Даў больш,
Чым меркаваў Данбас, —
Ня вычарпальны
Творчы дух;
На сто процэнтаў
Больш заданьня.
Ўсяму саюзу
Пульс і рух
Дадуць
Данбаскія капальні.

**Транспарт:**

— Трымае
Горда галаву
І транспарт наш
Ў хадзе няспыннай.
На бальшавіцкую,
Сяўбу
Патрапіць
Кожная машына.

**Калгас „Асілак“:**

— Я чую
Голас гарадоў,
Я чую
Рытмы творчай сілы.
Да бальшавіцкай,
Я гатоў,
Маё імя—
Калгас „Асілак“.
У нас пануе
Тых настрой,
Настрой
Вялікай творчай сілы,
Якія
Мужнай барацьбой
Маю гісторыю
Тварылі.
Усё адмоўнае
Стырчма пусьцілі
К чорту на кулічкі.
Больш
Ураўнілаўкі няма,
І безадказнай
Абязьлічкі.
Да бальшавіцкай
Наш калгас
Падрыхтаваў усё
На трыста.
Насеньне—
Чыстае у нас,
Ад ворагаў—
Таксама чысты.
Сустрэнем дружна
Новы сеў.
У нас
Ёсьць плянавасьць у часе.
Яшчэ ад восені
Усе палі узораны
Ў калгасе.
Дык слухай, сонца,
За вясной
Занадта хутка
Лета едзе...
Даволі спаць
Зімовым сном
Пад хутрай
Белага мядзьведзя.
Ды з ветрам золкім
Не сябруй,
І не рабі
Растрату часу,
А ў бальшавіцкую
Сяўбу
Па бальшавіцку
Уключайся.

# Аб аднэй няўдалай кніжцы і малакроўных кошках

Вышла з друку кніжка „Карысныя і шкодныя жывёлы ў сельскае гаспадарцы БССР". Выданьне сельгассэктару ДВБ, 1932 г., стар. 76.

Дзейныя асобы, якія працавалі над гэтай кніжкай, складаюцца: аўтар **Навіцкая**, рэдактар **Г. Бондар**, літпрацаўнік **А. Зіміонка**.

Выхад добрай кніжкі на тэму аб шкодных і карысных жывёлах для сельскай гаспадаркі можна толькі вітаць, бо сапраўды, на гэтую тэму, апрача вузка спэцыяльнай, навуковай літаратуры, літаратуры для шырокіх мас калгасьнікаў, амаль няма, а кніжка т. Навіцкай менавіта, як відаць з слоў яе аўтара, для гэтай мэты і прызначалася. Тым больш на гэтак кніжцы на некаторы час мы і хочам спыніць увагу чытача.

З першых радкоў кніжкі аўтар спыняецца на розных відах чарвей, адводзіць дзьве тры старонкі сьлімаком, павукам, казюлькам, якія шкодзяць або прыносяць карысьць сельскай гаспадарцы. Праўда, і тут аўтар вельмі павярхоўна робіць той ці іншы вывад адносна якой небудзь „жывёлы", якога небудзь жывога стварэньня, не ўваходзячы больш глыбей у тыя зьявішчы, якія могуць быць выкліканы чыннасьцю вышэйпералічаных жывёл.

Але гэты аддзел—аддзел аб больш дробных жывых стварэньнях—у яго вышаў больш удалы, чым іншыя.

На старонцы 50 мы чытаем:

„**Крот** таксама жывіцца казюлькамі і **чарвой***) **жукоў**, якія **разьвіваюцца** ў зямлі. Але не яны зьяўляюцца яго галоўнай ежай, а дажджавыя чэрві, карысныя ў сельскай гаспадарцы. Апрача таго, краты рыюць свае хады **пад зямлёй, жуюць** карэнчыкі расьлін, а на сенажацях насыпаюць вялікія кучкі зямлі, што перашкаджае пры касьбе і зьмяншае ўраджайнасьць сена. Гэта прымушае нас лічыць крата шкоднай жывёлай, ня гледзячы на тое, што ён зьнішчае некаторую колькасьць казюлек".

На гэтым і канчае сваё разважаньне аўтар аб крату.

Перш-на-перш, крот харчуецца галоўным чынам дажджавымі чарвякамі, як гэта хоча ўпэўніць нас т. Навіцкая, а ён падбірае свае харчы ў залежнасьці ад сэзону. Калі, напрыклад, сенажаці (лугі) заліты вадой, „вільготныя, крот зусім пакідае гэтыя месцы і ня толькі **„ня жуе"** карэньні траў, а нават і ня рые тут ходаў. Значыць, ужо ўвесну ён ніяк ня можа прынесьці шкоды лугам. У гэты час ён перабіраецца ў больш сухія, больш высокія мясьціны і там зьнішчае вельмі шмат розных шкодных вусьняў, казюлек і нават мышэй. Вядома, калі тут пападзецца чарвяк, дык ён і яго „слопает", але ў такіх мясцох гэта не мяняе асабліва яго значэньня.

Па-другое, крата яшчэ ніхто з навуковых сіл не прылічыў канчаткова да абсалютна шкодных жывёл (за выключэньнем тав. Навіцкай), а некаторыя аўтары яго нават лічаць **карысным**. Напрыклад, у Нямеччыне крата ахоўваюць па закону. Зараз біолёгі, якія вядуць досьледы па вывучэньні крата з пункту погляду яго шкоднасьці і карыснасьці, яшчэ ня прышлі да канчатковага вываду, што крот—шкодная жывёла**); у адным месцы ён больш шкодны, у другім—вельмі карысны. Таму ня можа быць гутаркі аб ім „наогул", трэба пытаньне разглядаць больш дыялектычна.

Такім чынам крата зусім „незаконна" Навіцкая адносіць да шкодных жывёл у сельскай гаспадарцы і абвяшчае яго „вне закона". Асабліва незразумела гэта рабіць зараз, калі крот мае першаразраднае прамысловае значэньне і прыносіць карысьць і сваёй шкуркай.

Мы, з свайго боку, будзем раіць паляўнічым і насельніцтву ня зьнішчаць крата ў любы час і ўсякімі спосабамі, як шкодніка, а лавіць яго ў той час, калі яго шкурка зьяўляецца каштоўнай у сэнсе мэха, г. зн. пасьля яго ліняк, аб чым ужо ня раз пісалася ў часопі „Паляўнічы Беларусі". Як відаць т. Навіцкая зусім не знаёма ні з гэтым „шкоднікам", ні з яго жыцьцём, ні з тою рольлю, якую зараз крот адыгрывае ў нашым экспорце.

Яшчэ горш у т. Навіцкай абстаіць справа з зайцам. Гэтай жывёле дастаецца парадкам ад саміх паляўнічых, ад іх сабак, ад каршуноў, кошак, лісіц, ваўкоў і ад каго хочаце. А тут яшчэ т. Навіцкая, узброіўшыся „вострым" сваім пяром кінулася на гэтага касавокага.

„Заяц надзвычай шкодзіць лясным пасадкам, садовым гадавальнікам, гародам і наогул маладой расьліннасьці. Іншы раз досыць некалькіх дзён, асабліва ўзімку, каб заяц зьнішчыў малады сад або гадавальнік. Гэта гаворыць за тое, **што зайца трэба зьнішчаць ня толькі для таго, каб атрымаць яго шкуру і мяса, але і для таго, каб захаваць ад яго зубоў свае сады і гароды**", — выпаліла т. Навіцкая і заявіла, што „на гэтым мы і скончым". Вядома, калі брацца пісаць аб той жывёле, якую ня ведаеш, дык тут больш нічога ня вымучыш.

Але што падштурхнула пісаць Навіцкую гэтую „кляўзу" на зайца. Іншая справа, калі ў 1912 г., як раз з такой самай „дэклярацыяй" выступіў на старонках друку нейкі абшарнік Мілюцін***), дык ён меў тут пэўную мэту. У нас-жа **зусім іншая справа. І сельская гаспадарка і паляўнічая зьяўлюцца часткамі ўсёй нашай народнай гаспадаркі.**

Але справа яшчэ ня толькі ў гэтым. Справа ў тым, што заяц, зьяўляючыся, сапраўды, грызуном, усё-ж такі прыносіць бязумоўна многа і карысьці. Перш на-перш кожны з іх дае 2—3 *кг* вельмі каштоўнага і смачнага мяса. Па-другое, з яго шкуркі вырабляецца шмат розных рэчаў, як жаночыя і мужчынскія галаўныя ўборы, вельмі мяккія і цёплыя валёнкі і каштоўны, для тонкіх работ, клей.

Заяц займае вялікае месца ў нашых пушных нарыхтоўках. Шкурка яго зьяўляецца экспартнай

*) Усюды падкрэсьлена мною. **М. Ц.**

**) Глядзі час. „Паляўнічы Беларусі" № 11, 12, 1932 г.

***) „Охотничий вестник", 1912 г. № 8.

сыравінай. Апрача таго, трэба прыняць пад увагу і значэньне экспорту для працоўных мас, пры паляваньні на яго. Яго трэба здабываць законнымі спосабамі ў законныя тэрміны.

А калі ён сапраўды можа шкодзіць узімку садам, дык, па-першае,—так бывае толькі ў кепскага гаспадара, які не абвязвае на зіму маладыя дрэвы лапнікам ельніку або драцянай сеткай і ня ставіць навакол саду плоту, па - другое—мы ведаем, што колькасьць пераходзіць у якасьць і гаворыць пра шкоду зайца нашай сельскай гаспадарцы (гародам, пасевам і г. д.) пры такой колькасьці іх, якая ёсьць зараз у нас, зусім ня прыходзіцца, а патрэцяе, нават, калі-б ён і прыносіць якую-небудзь (вельмі нязначную!) шкоду, **дык і гэта яму трэба** прасьціць за яго карысьць.

Нідзе я ня чуў, каб заяц прыносіў шмат шкоды гародам або садом у добрым калгасе ці саўгасе. У Нямеччыне зайцоў у шмат разоў больш, чым у нас, іх там разводзяць **і заяц дае ў год звыш 14 млн.** марак даходу, а між тым там жа цэлыя і сады і гароды, і нават больш чым у нас.

Далей ідзе аддзел **аб драпежніках**—катох, сабаках, ваўкох і іншых. Кошку т. Навіцкая прылічвае выключна да **карысных драпежнікаў, што супярэчыць сапраўднасьці.** І далей гаворыць: „Заграніцаю кошка карыстаецца значна большай пашанай, чым у нас. У дзяржаўных установах там ім нават выдаецца паек, а па старасьці **вызначаецца пэнсія...** А ў нас склалася паняцьце, што каб кошка лавіла мышэй, яе ня трэба карміць. Худой малакроўнай кошцы не да паляваньня“.

Уяўляю сабе, як за мяжой кошкі стаяць у чарзе за пэнсіяй, і атрымліваюць яе, але за тое, як мы ведаем, у буржуазных краінах сем'і беспрацоўных, якія, бязумоўна, трымаюць таксама і кошак (малакроўных!) не атрымліваюць пэнсіі і сядзяць бяз мяса.

Наогул разьдзельчык аб кошках такі сапраўды малакроўны, што трэба зьдзіўляцца, як яму не падлілі крыху „крыві“ ў ДВБ, дзе гэтая кніжка выдавалася.

**Адносна сабакі і ваўка.** Тут аўтар, скажам словамі аднаго з герояў Гогаля: „думал, думал, и не знал, что подумать“. Таму рашыў сказаць наступнае:

„Усім вядома значэньне сабакі ў сельскай гаспадарцы, разумнай, адданай чалавеку жывёлы, як вядома і значэньне ваўка (можа таксама разумнага і карыснага? **М. Ц.**) дзікага, бліжэйшага родзіча нашага сабакі, ад якога ён і паходзіць. Аб іх я гаварыць ня буду“. І лепш бы не гаварыла зусім.

Далей аб барсуку. „Барсук—досыць вялікая жывёла (каля 80 *см*). „Чалавек палюе на іх з-за іх футры“. Зусім не! Футра барсука ня мае кошту. Палююць на барсука з-за яго тлустасьці.

Шмат і іншых недарэчнасьцяй ёсьць у кніжцы. Аб ласцы аўтар гаворыць, нібы яна „ласкоча коняй“. З якой прычыны? Што яе прымушае на гэта?—аўтар у гэта не ўваходзіць, бо ён верыць гэтаму і раіць „мазаць сьпіну коняй чым небудзь пахучым. І каню ня шкодна і ласка цэла“—заключае ён.

Саву насельніцтва зьнішчае толькі таму, што гэтая птушка „плача, як дзіцё“, і замест таго, каб падаць жыцьцё савы, яе карыснасьць у сэнсе адлову мышэй, што сава птушка начная і шкодзіць птушатнікам удзень няздольна, аўтар суха гаворыць, што курыца менш каштуе, чым карысьць, прынесеная ёй (савой) і што „трэба ўмець разьлічваць, **бо без разьліку соцыялізму не пабудуеш**“ (?) (можа аўтар і не хацеў сказаць гэтага, але выходзіць, што, калі мы ня будзем улічваць карысьці савы, дык не пабудуем сацыялізму. А гэта ўжо вульгарызацыя нашага сацыялістычнага будаўніцтва?

Ёсьць у т. Навіцкай і нейкія птушкі, якія яшчэ дагэтуль нікому ня былі вядомы, напрыклад, „гаглек“, „нежыць“. Аб саракапуце аўтар гаворыць, што ён сьпявае на розныя галасы. Саракапут, які „сьпявае на позныя галасы, стракоча як сарока, адкуль і атрымаў сваю назву*). „Самка вожыка выводзіць 8 важанят“. А што рабіць з тымі самкамі, якія выводзяць сем, або шэсьць, або пяць важанят, як гэта часта ў іх здараецца? Кажан (лятучая мыш) ловіць мышэй хатніх і шмат інш. памылак.

Калі гэта кніжка трапіць у школу, яна можа зьбіць з толку вучня, які да гэтага часу быў упэўнен, што балотная чаранаха, якая сустракаецца пераважна ў паўднёвай частцы Беларусі, жывіцца выключна рыбай і іншымі відамі жывёл і ніколі ня есьць расьлінасьці, як аб гэтым кажа аўтар, а таксама быў упэўнены ў тым, што суслікі сустракаюцца ў Случчыне, а хамякі—у Гомельшчыне, а аўтар гаворыць, што „на абшарах Беларусі яны ня водзяцца“. А пападаючы ў калгас ці саўгас, гэты малакроўны твор аб малакроўных кошках не прынясе таксама ня толькі карысьці, а наадварот—шкоду, бо нельга забываць пра значэньне кошкі, напрыклад, у якасьці зьнішчыцеля дробных карысных птушак, ня гледзячы на тое, што аўтар у канцы кніжкі заяўляе: „Няхай мая кніжка будзе маленькім укладам у наша культурнае будаўніцтва“.

Ну, і ўклад!

**М. Целеш.**



У апошні гон.

*) „Сорокопут. Путает сороку“.

---

**Рэдкалегія: Тамашэўскі, Целеш, Болдырь, праф. Фядзюшын.**

**Адказны рэдактар П. Тамашэўскі.**

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 825. 12.300 экз. Уп. Галоўлітбел. у А-3.

